*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4761) 21 сакавіка 2014 г.



## Міколу Мятліцкаму — 60 гадоў!


*Фота Кастуся Дробава*

## *Пункціраам*

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ад імя беларускага народа і сябе асабіста павіншаваў Папу Рымскага Францыска з першай гадавінай Пантыфікату. «Упэўнены, што Ваша дзейнасць на чале Святога Прастола яшчэ больш умацуе традыцыйныя адносіны супрацоўніцтва, узаемаразумення і павагі паміж Рэспублікай Беларусь і Ватыканам», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў Юрыя Бондарава з 90-годдзем. «Вялікі талент, жыццёвы досвед, мужнасць і стойкасць чалавека, які прайшоў цяжкімі франтавымі дарогамі, знайшлі сваё ўвасабленне ў вашых раманах і аповесцях, — адзначыў Прэзідэнт. — На беларускай зямлі вас цэняць як выдатнага майстра мастацкага слова і вядомага грамадскага дзеяча, які нямала зрабіў для ўмацавання культурных сувязей нашых краін».

✔ Прэзідэнт павіншаваў калектыў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі з 50-годдзем заснавання ВНУ. За паўвекавую гісторыю БДУІР стаў прызнаным лідарам айчыннай навукі і адукацыі, адзначана ў віншаванні.

✔ Паводле старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара, у мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой» да 22 чэрвеня будзе адкрыты новы музей. Экспазіцыя пад назвай «Музей вайны — тэрыторыя міру» разгорнецца ў васьмі залах паўднёва-ўсходняй казармы крэпасці. Інвестарам праекта выступае ААТ «Белтрансгаз».

✔ Падчас Чэмпіянату свету па хакеі музеі Беларусі ўпершыню правядуць рэспубліканскую акцыю «Ноч у музеі» па аналогіі з міжнародным мерапрыемствам «Ноч музеяў», якое ўжо стала традыцыйным. Паводле намесніка міністра культуры Беларусі Васіля Чэрніка, да красавіка ў музеях павінны распрацаваць канцэпцыю новага мерапрыемства. Узяць у ім удзел могуць установы культуры не толькі сталіцы, але раённых і абласных цэнтраў.

✔ На канале «Культура» Беларускага радыё стартаваў праект «Усе дзеці таленавітыя», арганізаваны камандай дзіцячай праграмы «Мэры Попінс» і Грамадскім аб'яднаннем «Беларускі фонд SOS-Дзіцячая вёска». На аўторках у межах праграмы «Мэры Попінс» будзе распавядацца пра сем'і, дзе выхоўваюцца адораныя дзеці з няпростым лёсам. Кожная сям'я прапануе адметны творчы нумар.

✔ Сумесны канцэрт заслужанага ансамбля танца «Крыжачок» Белдзяржуніверсітэта і танцавальнага фальклорнага калектыву «Кадагіс» з г. Друскінінкай (Літва) адбудзецца сёння ў актавай зале Ліцэя БДУ. Арганізатарам выступіла ўпраўленне па справах культуры ўніверсітэта пры падтрымцы беларускага таварыства «Спадчына» з Друскінінкая. Да ўвагі гледачоў — традыцыйныя і жанравыя беларускія і літоўскія народныя танцы. Пачатак у 18.00. Уваход вольны.

Падрыхтавала **Іна ЛАЗАРАВА**

## *Пытанне да творцы*

# Ці існуе гендарны падзел у літаратуры?



**Алег Вінярскі, артыст і рэжысёр Беларускага радыё:**

— Рысы, якія вызначаюць жаночую творчасць, безумоўна, існуюць. Па-першае, эмацыянальныя фарбы: жанчына піша вельмі пачуццёва. Яе сардэчны парыў, можа, нават мацнейшы за мужчынскі. Таму, напэўна, настолькі папулярныя вершы нашых лепшых паэтэс. Другая рыса — інтэлектуальнасць: жанчыны-літаратары імкнуцца да «прарыву» на найвышэйшы ўзровень, смела ідуць на творчы эксперымент.

Жаночая літаратура для мяне — перш за ўсё класічныя творы. Творчасць Цёткі, напрыклад, — узор класічнай і ў той жа час вельмі сучаснай думкі і мовы: яе абразкі, проза, успаміны. Жанчыны — Яўгенія Янішчыц, Вера Вярба, Еўдакія Лось — складаюць гонар беларускай літаратуры. Хацеў бы, карыстаючыся нагодай, успомніць імя, якое, на жаль, мы мала ведаем: Любоў Шэлег. Яна пісала вершы, прозу, эсэ, афарызмы — ішла шырокай плынню, але заўчасна пакінула гэты свет. Успрымала сябе нашчадкам класічнага ўзору літаратуры — Г. Ахматавай, М. Цвятаевай, — і гэта адчувалася.



**Васіль Каткавец, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Любанскага райвыканкама:**

— Вельмі люблю беларускіх паэтэс, пачынаючы ад Цёткі. Адна з найбольш любімых — Яўгенія Янішчыц, мая зямлячка. Паэзія яе зямная і ўзнёслая адначасова. Вобраз палескай ластаўкі на дзіва адметны і сімвалічны.

Мне здаецца, жаночая паэзія і проза вылучаюцца перадусім лірычнасцю, душэўнай сардэчнасцю. Адметныя тэмы — жаночы лёс, каханне, утульнасць сямейнага агменю. Апошняе перарастае ў больш агульную тэму Радзімы, Айчыны — як, прыкладам, у Цёткі, дзе лірычны і грамадзянскі пачаткі ўспрымаюцца як адзінае цэлае.



**Зміцер Арцюх, паэт:**

— Я б не стаў адасабляць «жаночую» і «мужчынскую» творчасць. Сапраўдная творчасць сумяшчае розныя пачаткі. Натуральна, жанчыны пішуць больш лірычна і рамантычна. Справа не ў гэтым. Галоўнае адрозненне, напэўна, палягае ў вытоках мастацтва. Жанчыны пішуць ад напружання пачуццяў, эмоцый, таму атрымліваецца больш роўна, цэльна. Мужчыны пачынаюць пісаць з-за пэўнай незадаволенасці сабой ці светам. Літаратурны твор як пэўная сублімацыя мусіць быць супрацьлегласцю недасканаласці і незадавальненню, таму творца свядома ставіць высокую мастацкую планку і часта яе дасягае.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Вынікі і планы

**Адбылося чарговае пасяджэнне бюро секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Дырэктар Дзяржаўнай установы «Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска» Таццяна Швед пазнаёміла прысутных з планам мерапрыемстваў да Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі, запрасіла творцаў на святочныя сустрэчы з юнымі чытачамі. Так, напрыклад, бібліятэка № 4 правядзе юбілейную сустрэчу з паэтам Уладзімірам Мазго і чытанне кнігі Генадзя Аўласенкі «Казкі дзядулі Дняпра» вядомымі асобамі. А дзіцячыя кніжніцы № 5, № 6 і № 15 наведаюць пісьменнікі Ніна Галіноўская, Мікола Чарняўскі і Міхась Пазнякоў.

На секцыі абмеркавана творчасць для дзяцей Алены Туравай, якая выдала ў Выдавецкім доме «Звязда» кнігі «Рыжык у Залюстрэччы» і «Кіндэрвілейскі прывід». Маладая аўтарка рэкамендавана да прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Члены бюро секцыі падвялі вынікі сваёй працы за мінулы год і прынялі планы на 2014-ы.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

*За падзеяй*

# Рыфмаваная місія

**Дыпламатыя, як і паэзія, патрабуе душэўнай стойкасці, таленту і разумення ўнутранага свету людзей. Творчы вечар «Па струнах думак» Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Эвалдаса Ігнатавічуса адбыўся ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.**

Галоўны герой імпрэзы — не толькі знакаміты дыпламат, але і паэт, перакладчык, член Літоўскага саюза пісьменнікаў. Прафесія, з якой звязаў жыццё, не перашкаджае яго творчасці. Дарэчы, яго вершы перакладзены на англійскую, рускую, польскую і беларускую мовы. Яны па-сучаснаму дынамічныя і вострыя, даволі сціплыя па памерах, але глыбокія па змесце. У іх выразна адчуваецца ўплыў лірыкі Усходу, еўрапейскай паэтычнай спадчыны і, канечне, літоўскай літаратурнай традыцыі, пачынаючы ад Крысціёнаса Данелайціса. Але плён творчай працы дыпламата гэтым не абмяжоўваецца. Філолаг па адукацыі, ён стварыў шмат артыкулаў і эсэ, прысвечаных паэзіі. Эвалдас Ігнатавічус не забывае і сваю асноўную місію, звязаную з умацаваннем сяброўскіх адносін паміж Беларуссю і Літвой.

У перыяд з 2006 па 2013 год Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Літве з'яўляўся Уладзімір Дражын, які завітаў на вечар, каб выказаць павагу да калегі:

— Разам з Эвалдасам Ігнатавічусам мы доўга працавалі на ніве двухбаковых адносін нашых краін, рабілі ўсё магчымае, каб адбыліся візіты кіраўнікоў дзяржаў, былі падпісаны дакументы аб супрацоўніцтве ў галінах культуры, эканомікі, адукацыі, навукі, медыцыны.

Спадар пасол вельмі цікавіцца беларускай паэзіяй і перакладае яе на літоўскую мову. З асаблівай увагай ён звяртаецца да паэтычнай спадчыны Янкі Купалы, больш за тое — прысвячае свае творы Песняру.

Эвалдас Ігнатавічус — аўтар зборніка «Павераны часовых спраў», які выйшаў у 2008 годзе, а яшчэ падчас службы ў войску ён надрукаваў зборнік вершаў на рускай мове «Исповедь на виселице». Праўда, апошні пабачыў свет у колькасці… шасці экзэмпляраў!

Акцёр Мінскага новага драматычнага тэатра Ігар Падлівальчаў заўважыў, што ў вершах літоўскага дыпламата няма літаратурнага дэкору і паэтычнай экзальтацыі, але яны вельмі глыбокія па сэнсе. «Праз кожны радок я бачу, як удумліва аўтар назірае за жыццём. Словам ён можа адчыніць патаемную скрыню ў душы, зачапіць яе так, каб пацягнуўся вязлівы ланцужок успамінаў», — лічыць акцёр.

Эвалдас Ігнатавічус браў удзел у стварэнні паэтычнай анталогіі «Чужыя», першая частка якой выйшла ў 1994 годзе. Паводле дыпламата, хутка павінен з'явіцца працяг лірычнага зборніка.

На вечары прагучалі вершы літоўскага паэта на трох мовах: літоўскай, беларускай і рускай. У Беларусі ў Эвалдаса Ігнатавічуса шмат сяброў. У творчай сустрэчы ўзялі ўдзел перакладчыца вершаў на беларускую мову Юля Цімафеева, пісьменнік Адам Глобус, бард Алесь Камоцкі, які ўпершыню выканаў песню «Усход», напісаную на словы дыпламата. Сімвалам вечара стаў знакаміты Паланэз Агінскага, які яднае Беларусь і Літву. Лірычную атмасферу, насычаную паэтычна-музычнымі «фарбамі», падтрымаў струнны квартэт *Anima*.

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч уручыла Эвалдасу Ігнатавічусу Ганаровы дыплом сябра і ўдзельніка дыпламатычнага клуба музея.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Лекі для душы



*Фота Кастуся Дробава*

*Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Павел перадаў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі факсімільны экзэмпляр «Полацкага Евангелля».*

**Пляцоўкай для правядзення Дня праваслаўнай кнігі сёлета стала Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Свята можна назваць традыцыйным: яно праходзіць з 2009 года рашэннем Свяшчэннага Сінода Рускай праваслаўнай царквы па ініцыятыве патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла. Сёлета гэтая дата стала асабліва значнай: праваслаўныя хрысціяне адзначылі 450-годдзе выпуску першай на Русі датаванай кнігі дыякана Івана Фёдарава «Апостал».**

Для Беларусі імя Івана Фёдарава асабліва значнае: ёсць гіпотэза, што рускі першадрукар — выхадзец з нашых зямель. Па меркаваннях даследчыкаў, ён — прадстаўнік шляхецкага роду Рагозаў, якія жылі пад Вілейкай. Абмеркаванню пытанняў паходжання І. Фёдарава, а таксама важных момантаў функцыянавання праваслаўнай літаратуры ў сучасным грамадстве была прысвечаная прэс-канферэнцыя з удзелам свяшчэннікаў, выдаўцоў, пісьменнікаў і навукоўцаў.

— Гісторыя новай праваслаўнай літаратуры распачалася ўсяго 20 гадоў таму, — распавяла пісьменніца і журналіст Алена Міхаленка. — Спачатку гэта былі проста перавыданні дарэвалюцыйных кніг. Напісаныя выдатнай мовай, яны ўсё ж не адпавядалі патрабаванням часу, бо выхоўвалі каштоўнасці і рысы мінулага стагоддзя. У той час мала было сапраўды вартых увагі выданняў, якія проста і даступна для шырокага чытача асвятлялі б самыя розныя пытанні духоўнасці. Сёння пісьменнікам важна пісаць на розныя тэмы, але з духоўнай ацэнкай учынкаў героя. Менавіта такія творы выходзяць у серыі «Сонечны зайчык».

Праваслаўная літаратура ў сучасным свеце закліканая не проста распавядаць пра веру, святых, яна мусіць дапамагаць людзям справіцца са складанымі жыццёвымі абставінамі, сарыентавацца ў свеце. Часта ў кнігах няма нават ні слова пра Бога, але ёсць духоўнасць, маральнасць, светласць і чысціня. Зварот да такіх выданняў часам становіцца адзіным выйсцем для асоб, якія страцілі блізкага чалавека, перажываюць складанае расстанне і вымушаныя проста "збіраць сябе" пасля лёсавызначальнай падзеі.

Значным акцэнтам свята стала ўрачыстая цырымонія перадачы ў дар факсімільнага выдання Полацкага Евангелля ў фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Адметна, што факсімільнае ўзнаўленне гэтага ўнікальнага помніка славянскага пісьменства канца XII — пачатку XIII ст. было здзейснена ў выніку шматгадовай плённай працы прадстаўнікоў нацыянальных бібліятэк Беларусі і Расіі, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Выдавецтва Беларускага Экзархата.

**Юзэфа ВОЎК**

*Імпрэзы*

# Данкавым шляхам

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбыўся творчы вечар Наталлі Аўдзеевай.**

Наталля Пятроўна не толькі старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры — яна піша вершы, песні, цудоўна спявае. Праўда, не выдае сваіх твораў, сціпла застаючыся «аматарам», але — надзвычай натхнёным. Чалавек багатай душы, яна імкнецца падзяліць гэтае багацце з людзьмі, блізкімі па духу. Менавіта такая аўдыторыя сабралася ў доме-музеі беларускага класіка.

Сутнасць «актывісткі і артысткі» выявілася з дзяцінства. У родным Магілёве ладзіла святы вуліц, арганізоўвала цімураўскія каманды. У Палацы піянераў займалася вакалам, іграла на акардэоне ў музычнай школе. У 19 гадоў стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу вакалістаў. Атрымала адукацыю настаўніка і работніка культуры, потым скончыла Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. І гэта не прыступка да «кар'еры», але лагічны працяг асноўнай лініі жыцця: з 21 года Наталля Аўдзеева займае вызваленыя грамадскія пасады.

Наталля Пятроўна шчыра ганарыцца тым, што з маладосці спрычынілася да арганізацыі культурнага жыцця ў родным горадзе. Пры яе ўдзеле былі адкрыты гімназія-каледж музыкі і харэаграфіі, першая ў рэспубліцы гарадская дзіцячая школа мастацтваў, харавая капэла, духавы аркестр, упершыню былі праведзеныя святы Купалля і Каляд. Важным этапам грамадска-культурнай працы стала кіраўніцтва Магілёўскім тэатрам лялек: на чале з захопленым дырэктарам і мастацкім кіраўніком тэатр хутка ўзняўся на міжнародны ўзровень і атрымаў адпаведнае прызнанне.

Пра сваё жыццёвае крэда Наталля Аўдзеева кажа: «Бацькі прывілі мне імкненне жыць па-чэхаўску прыгожа: гэта значыць штодзень удасканальваць сябе». Што ж, такое крэда аднолькава дзейснае і ў мастацтве, і ў грамадскай працы. Да таго ж, любімы літаратурны герой гэтай незвычайна шчырай, душэўнай жанчыны — горкаўскі Данка, які асвятляў шлях людзям.

**Лея ХАШЫМБА**

# Слова да слова

**Галерэя «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі зноў парадавала цікавай і безумоўна вартай увагі прэзентацыяй: публіцы прадставілі фундаментальныя даведачныя выданні па беларускай мове.**

Госці мерапрыемства пазнаёміліся са «Слоўнікам беларускай мовы», «Граматычным слоўнікам дзеяслова», «Граматычным слоўнікам назоўніка», «Граматычным слоўнікам прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя». Пра тры апошнія мы пісалі раней падрабязна. Над выданнямі працавалі навукоўцы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.

Алена Даўгаполава, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі, адзначыла, што сустрэча гэтая заканамерная: беларуская мова, як і ўсякая іншая, развіваецца, назапашвае лексіку, змяняецца, так што слоўнікі рана ці позна мусілі з'явіцца. Добра, што гэта здарылася раней.

Акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя павіншаваў навуковы калектыў і дадаў, што праца гэтая бачыцца яму следаваннем запавету, які пакінуў нам Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце мовы нашай...»

Усе выступоўцы падкрэслівалі вялікую значнасць выданняў. Так, яны мусяць садзейнічаць павышэнню культуры беларускай пісьмовай мовы, вывучэнню мовы ў школах і ВНУ, а таксама, як пазначалася ў анонсе мерапрыемства, «забеспячэнню статусу беларускай мовы як дзяржаўнай мовы краіны, павышэнню яе прэстыжу як высокаразвітой літаратурнай мовы, якая можа абслугоўваць усе камунікатыўныя патрэбы сучаснага беларускага грамадства».

Я цытую гэтыя словы, каб расставіць акцэнты. Людзям, якія сапраўды ведаюць мову і жывуць з ёю, і так вядома, што яна «высокаразвітая» і г. д. Значыць, перадусім выказванне адносіцца да рускамоўных людзей, а таксама навучэнцаў, якія толькі складаюць уяўленні пра свет, толькі пачынаюць вылучаць для сябе пэўныя каштоўнасці. Значыць, слоўнікі павінны займець самае шырокае распаўсюджанне. Іх трэба развезці па ўсіх без выключэння навучальных установах, па ўсіх адміністрацыйных «пастах». Слоўнікамі мусяць карыстацца перадусім настаўнікі, з якіх бяруць прыклад дзеці. Што яшчэ важна — слоўнікі варта было б распаўсюджваць альбо зусім бясплатна, альбо са зніжкай.



*Выступае Валянціна Русак.*

Пра тое ж казалі навукоўцы: Аляксандр Лукашанец, які зладзіў своеасаблівую лекцыю па мовазнаўстве, Валянціна Русак, Ігар Капылоў, а таксама галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская навука» Георгій Кісялёў.

Падчас прэзентацыі працавала кніжная выстаўка «Слова да слова — будзе мова», якая змясціла больш як сто арфаграфічных, тлумачальных, дыялектычных і іншых слоўнікаў розных гадоў выдання пачынаючы ад XIX стагоддзя.

**Анастасія ГРЫШЧУК, фота прадастаўлена Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі**

# Размова пра шчасце




*Аўтограф на ўспамін ад Ніны Галіноўскай.*

**Лепшымі якасцямі, уласцівымі дзіцячаму пісьменніку, валодае цудоўная паэтэса Ніна Галіноўская, аўтар кнігі «Калі я шчаслівы», якая ўбачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».**

У сталічнай бібліятэцы № 5 па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення СПБ адбылася прэзентацыя выдання. На сустрэчу з творцай прыйшлі вучні 2 класа сярэдняй школы № 10 г. Мінска.

Ніна Галіноўская адкрыла імпрэзу вершамі, прысвечанымі матулі, радзіме. Творы, з якімі яна знаёміла маленькіх чытачоў, разнастайныя па жанрах: вершы, казкі, загадкі, жарты, небыліцы. Але ўсе яны прасякнуты любоўю да дзяцей, вучаць дабрыні і спагадзе, выхоўваюць патрыятычныя пачуцці, павагу да бацькоў, цікавасць да навакольнага свету, вучаць спачуваць жывёлам і птушкам, берагчы ўсё жывое на зямлі.

У сустрэчы ўзяла ўдзел мастачка Галіна Хінка-Янушкевіч, малюнкі якой упрыгожылі дзіцячую кнігу.

**Наталія КАСЦЮЧЭНКА, фота аўтара**

# Паэтычнае, меладычнае...

Галоўным героем паэтычна-музычнага свята «Ад шчырага сэрца», якое адбылося ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, стаў ансамбль народнай музыкі і песні «Мінскі гармонік». Рэпетыцыі калектыву пад кіраўніцтвам кампазітара, музыканта і паэта Івана Раманчука праходзяць пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У выкананні салістак Галіны Пархімчык і Алы Гоман на імпрэзе гучалі песні, музыку да якіх напісаў сам І. Раманчук. Ён жа стварыў і шэраг песенных тэкстаў («Спявай, душа народная», «Жывая казка», «Матчына аконца», «Там, дзе ты»). Акрамя таго, ансамбль выканаў музычныя творы на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Антона Бялевіча, Міхася Пазнякова, Веры Буланда, Ніны Гарагляд, Марыі Баравік, класікаў рускай паэзіі Канстанціна Бацюшкава і Сяргея Ясеніна, а таксама песню «На гарэ вярбіца» (словы народныя).

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў пажадаў творчаму калектыву натхнення на новыя песні.

**Яна ЯВІЧ**

*Да ведама*

# Мяцеліца сярод вясны

**У мінскай гарадской бібліятэцы № 22 адбылася прэзентацыя кнігі Аляксандра Новіка «Блакітная мяцеліца», якая не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».**

Імпрэза была прысвечана памяці аўтара — беларускага паэта-рамантыка, які пайшоў з жыцця больш як два гады таму. На пачатку сустрэчы загадчыца бібліятэкі Наталля Ярашэвіч распавяла прысутным пра жыццёвы і творчы шлях А. Новіка.

Вядучы імпрэзы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, паэт Міхась Башлакоў, пазнаёміў прысутных з творчасцю аўтара, напоўненай рамантыкай пройдзеных ім дарог — ад Беларусі да Чукоткі, куды паэт паехаў па камсамольскай пуцёўцы. У выкананні М. Башлакова прагучалі шчымлівыя радкі Аляксандра Новіка пра родны край, прыроду, каханне. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў прачытаў верш, прысвечаны памяці паэта. Укладальнік і рэдактар кнігі «Блакітная мяцеліца» паэт Мікола Шабовіч распавёў, як рыхтавалася выданне.

Са словамі ўдзячнасці звярнуўся да аўдыторыі сын паэта, вядомы вучоны-этнолаг Аляксандр Новік, які прыехаў на прэзентацыю з Санкт-Пецярбурга.




Лёгкасць і маляўнічасць вершаў А. Новіка арганічна спалучаліся з музыкай: прысутныя пачулі песні на словы паэта ў пранікнёным выкананні кампазітара Анатоля Міхальчэнкава і пісьменніка, барда Дзмітрыя Пятровіча.

**Людміла ВЕРАБ'ЁВА**

# У сяброўскім карагодзе

Выстаўка вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Прыгажосць сваімі рукамі», арганізаваная фальклорна-этнаграфічным кабінетам-музеем беларускай культуры і кафедрай беларускай літаратуры і культуры, ладзілася на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Як адзначыў намеснік дэкана філфака дацэнт Мікалай Хмяльніцкі, кожная рэч у экспазіцыі красамоўна распавядае пра людзей, якія яе стварылі.

Сваю творчасць прадэманстравалі славутыя і пачынаючыя майстры. Увазе наведвальнікаў былі прадстаўлены вырабы членаў Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Таццяны Мікаэлян (валянне з воўны, упрыгожванні з натуральных камянёў і скуры), Святланы Платуновай (пано, сумачкі, сурвэткі, абрусы, упрыгожванні ў лапікавай тэхніцы), Людмілы Манахавай (абрусы, сумачкі, шапачкі, звязаныя кручком), майстроў народнай творчасці Алы Мікалуцкай, Тамары Журун ды інш.

Прэзентацыя экспазіцыі гарманічна дапоўнілася прыгажосцю мастацкага слова падчас міжнароднага свята песні «Сяброўскі карагод». Прысутных зачаравалі выступленні фальклорна-этнаграфічнага гурта «Багач» і кітайскіх студэнтаў аддзялення рускай філалогіі, а таксама стажораў з Харбіна.

**Ганна МЯТЛІЦКАЯ**

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**24 сакавіка** — на прэзентацыю кнігі Ніны Галіноўскай «Калі я шчаслівы». Мерапрыемства пройдзе ў бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак у 11.00.

**24 сакавіка** — на творчы вечар драматурга Анатоля Дзялендзіка ў Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5), падчас якога адбудзецца прагляд спектакля «Карона кахання» (Янка Купала і Паўліна Мядзёлка). Пачатак а 18-й гадзіне. Уваход вольны.

**25 сакавіка** — на XV Мінскія паэтычныя чытанні ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Удзел бяруць вядомыя сучасныя паэты. Пачатак а 17-й гадзіне.

**27 сакавіка** — на вечар сучаснай паэзіі. Вершы чытаюць студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Імпрэза пройдзе ў бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.

**28 сакавіка** — на прэзентацыю кнігі паэзіі Ганны Васільевай «Эффект тетивы», якая адбудзецца ў бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (вул. Гікалы, 4). Пачатак а 18-й гадзіне.

## Вера МІХНО



***

*Нашто Бог чалавеку рукі даў?*
*Не для таго ж, каб ён хапаў аберуч,*
*Бязвольна апускаў ці распускаў,*
*Пад дых мог кулакамі ў бойках перыць.*

*Бог рукі даў яму, каб працаваць*
*Тварыць з майстэрствам тонкім,*
*што карункі,*
*Рукамі лашчыць любых, абдымаць,*
*І для нашчадкаў мог запісваць думкі,*

*Пагушкаць-палюляць дзіця на іх,*
*Сябрам жа працягнуць на дапамогу,*
*Ды, склаўшы рукі на грудзях сваіх,*
*У рэшце рэшт аддацца ў рукі Богу.*

***

*Зноў вясна спатканнем цешыць,*
*Шчаслівейшая іду!*
*Твой букет пралесак першых*
*Я да вуснаў прыкладу.*

*З гэтай блізкасці вясновай*
*Я сваё дзіця зачну,*
*Разраджуся ж песняй новай*
*Пра каханне ды вясну!*

***

*Птушыны спеў,*
*Як пераборы балалайкі.*
*Сапраўдны цуд жыцця —*
*Парой вясновай сад.*
*Пупышкі дрэў*
*Нібы наседжаныя яйкі,*
*З іх лісцікі тырчаць,*
*Што крылцы птушанят.*

***

*Дзён халодных мне выпала шмат.*
*Надакучыла сэрцу зіма,*
*Ды сустрэла твой позірк,*
*бы — знак.*
*Неба вестку даслала, няйнакш:*
*Хутка сонейка выйдзе з-за хмар.*
*Дык чакаю, паўнюткая мар,*
*Каляровыя бачу я сны.*
*Позірк твой — гэта ўсмешка вясны!*

***

*Бэз кіпеў ружова-шызай пенай,*
*Водарам выпарваўся дурманным.*
*Браў салоўка верхняе калена —*
*Гэта быў накцюрн для закаханых.*

*Сонейка цяпло ды ласка траўня*
*Сэрцу дадавалі трапятання.*
*…З поцемкаў глыбінь юнацка-даўніх*
*Першае ўсміхалася каханне.*

***

*Між каранёў старога дуба*
*На свет прабілася крынічка.*
*Душы яе паслухаць люба:*
*Цвырк-цвырк, дзынь-дзынь, нібы сінічка.*

*Вадзіца бурбалкамі грае*
*Ды, як шампанскае, іскрыцца.*
*Аж зубы ломіць — ледзяная,*
*А смаката — напой царыцы!*

*Бягуць зямелькі роднай сокі,*
*Яны любую гояць рану.*
*Абрыдлі «фанты», «спрайты», «кокі»…*
*Жывой вады крынічнай прагну!*

## Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ



### Яблыневы сад

*Многа год назад*
*Яблыневы сад*
*Пасадзіў ля хаты тата.*
*Кожную вясну*
*Яблыні цвілі*
*Белага яго саду.*
*У сuквецціях кроз*
*Сад са мною рос*
*Марыў аб вясне белай.*
*У святочны Спас*
*Частаваў ён нас*
*Яблыкам сваім спелым.*

*Вёсачка мая,*
*Любая мая,*
*Чыстая мая вёска.*
*З песняй салаўя*
*Засынаў тут я,*
*Нібы на зямлі Боскай.*
*Яблыневы сад —*
*Светлы напамін*
*Нашага з табой лета.*
*Зацвітаў ранет,*
*Адцвітаў наліў,*
*І было ў душы светла.*

### Будзьма разам

*Запаліце*
*Свечку памяці, прашу вас, запаліце.*
*Хай сцякае*
*Белым воскам на свянчоную зямлю.*
*Памяніце*
*Сваіх продкаў на магілах, памяніце,*
*Наша памяць*
*Не забудзе тых, хто выбраў з глебай шлюб.*

*Беражыце*
*Памяць тых, каго няма сягоння з намі.*
*Пагляд зіце,*
*Не крыжы глядзяць на нас, а наша памяць.*
*Будзьма разам,*
*Нас усіх з'ядноўваюць воля і Радзіма.*
*Будзьма разам!*
*Будзьма душамі і сэрцамі адзіны.*

### Мне позірк...

**Трыялет**

*Мне позірк твой ярчэй на свеце*
*За сотню позіркаў і кроз.*
*Калі нас зноў з'яднае лёс —*
*Мне позірк твой ярчэй на свеце!*

*Сягоння я лісток прынёс*
*І почырк твой на ім прыкмеціў:*
*Мне позірк твой ярчэй на свеце*
*За сотню позіркаў і кроз.*

### Ты помніш першае

**Трыялет**

*Ты помніш першае спатканне,*
*Якое падарыў нам лёс*
*Пад кронай восеньскіх бяроз?*
*Ты помніш першае спатканне —*
*На небе зоркі, і мароз,*
*І поціск рук на развітанне…*
*Ты помніш першае спатканне,*
*Якое падарыў нам лёс?*

### Мой анёл...

*Ты анёл, што спусціўся з нябёсаў,*
*Каб надзеяй мяне акрыліць.*
*Твае вочы і русыя косы,*
*Нібы лёсу празрыстая ніць.*
*Ёй сатканыя думкі і вершы.*
*Яна — вобраз Айчыны маёй.*
*Таму гэты анёл — самы лепшы,*
*Самы светлы анёл над зямлёй.*

*І таму я прызнаюся шчыра,*
*Што яму абавязаны ўсім.*
*Бо анёл маіх вершаў — жанчына,*
*Ад яе я набраўся тых сіл,*
*Што мяне суцяшаюць у скрусе*
*І ў пануры, нярадасны час*
*Мой анёл, як той прыпяцкі бусел,*
*Залятае у мроі да Вас.*

# 21 сакавіка — Сусветны дзень паэзіі




*На здымку: маладая аўтарка «ЛіМа» Таццяна Фінская. Фота Кастуся Дробава*

## Таццяна МАЦЮХІНА



***

*Словы песні не прыгадваю, маўчу.*
*У снежаньскай завеі — знак-каханне.*
*Загарнуся ў сцюжу і лячу*
*на чаканае, шчаслівае спатканне.*

*Ды не веру я ў маўчанне на дваіх,*
*сур'ёзнасць вымяраю днямі,*
*калі я чую голас твой. Аціх*
*вецер мой, ахутаны снягамі.*

***

*Напішу я слова на пяску…*
*Змые хваляй. Берагу*
*ў думках я крыніц гаючую ваду.*
*І сябе адчую вернай берагу,*
*на якім ўзрастала праз гады,*
*дзе сябе шукала — і знайшла тады,*
*калі ў воды кінула пярсцёнак залаты.*
*Ля таго ды берага плынь марской вады...*

***

*Даверыцца Вам, не згубіцца,*
*адкрыць таямніцы ў душы*
*я мару сягоння. Прысніцца*
*мне сонца скрозь промні вады.*

*Пяшчота ў паветры лунае.*
*Так хочацца ўсмешкі лавіць*
*ад тых, хто мяне акаляе.*
*І жыць, і кахаць, і любіць.*

***

*Звяртаюся на Вы, — але ці варта?*
*Шукаю на пытанні свой адказ.*
*Маўчаннем цішыня агорне ўпарта.*
*Ці я кахаю Вас? Агонь мой згас.*

*Навошта злосць, і тонкія намёкі,*
*і рэўнасць, для якой няма мяжы?*
*Гучаць у словах дзёрзкія папрокі.*
*У люстэрку не знікаюць вітражы.*

*А я — агонь, які ў вадзе шукае*
*адбітак сонца, ды знаходзіць зноў*
*аскепкі караблёў. Так патанае,*
*бы свечачка ў вадзе, мая любоў...*



# Людміла КЕБІЧ

## Лірычныя мініяцюры

### Я іду па сцяжыне

Я іду па сцяжыне, па якой мы ішлі з табой разам. Куды ішлі, не памятаю, таму што гэта было не галоўнае. Запомнілася адчуванне найвялікшай асалоды ад таго, што мы ідзём, што мы ўдваіх.

Калі сцяжына звужалася, ты ішоў наперадзе, а я шлэпала следам за табою. Ты нешта гаварыў, распавядаў пра нешта цікавае, але я амаль нічога не чула, адно падтаквала неўпапад, думаючы пра сваё. А калі папраўдзе — ні пра што не думаючы. Ты думаў за нас дваіх. І гэта была наша агульная думка.

Калі я не паспявала шлэпаць за табою і адставала, ты вяртаўся, падхопліваў мяне на рукі і подбегам пераносіў некалькі крокаў. Я абдымала цябе за шыю і пазірала ў твае вочы або задзірала галаву ў высокае неба. Мне ўсё роўна было, куды глядзець, таму што неба і твае вочы былі аднолькавага колеру. А потым я смяялася, шчыра, звонка і, напэўна, па-дзіцячы бяздумна. А ты, заўсёды ўздыхаючы, прамаўляў: «І што ты без мяне будзеш рабіць? Дзіця!»

Тады я пераставала смяяцца, закрывала даланёю табе рот і вочы і вельмі цвёрдым тонам прамаўляла: «Без цябе мяне не будзе. Ты чуеш? Мы заўсёды будзем разам».

Ты адразу апускаў мяне на зямлю і, зморшчыўшы лоб, перабіваў: «Ну ўсё хопіць, ідзі сама».

І вось я іду па нашай сцяжыне, якая цяпер ужо толькі мая. І думка таксама ўжо толькі мая. Іду сама. А ты ідзеш па іншай і ў супрацьлеглы бок. Магчыма, над тваёю сцяжынай такое ж яснае неба, як калісьці было над нашай. А за табою шлэпае падобная да мяне (так-так, менавіта падобная, таму што мужчыны заўсёды выбіраюць сабе другую палавінку, падобную да першай!) чароўная маладая жанчына. Яна таксама не паспявае за табою, і ты вяртаешся, і бярэш яе на свае моцныя дужыя рукі, і нясеш яе подбегам наперад. Яна здзіўлена пазірае табе ў вочы, потым — у неба. «Ніколі не думала, што вочы і неба могуць быць аднолькавага колеру!» — дзівіцца яна.

Ты ставіш яе на зямлю, хаця сцяжына ўсё яшчэ вельмі вузкая для таго, каб ісці па ёй побач удваіх, і, самотна ўздыхнуўшы, тлумачыш сваёй новай сяброўцы: «Бываюць... Былі... Але ў мінулым жыцці... На жаль...»

### Шлях да цябе

Я іду да цябе, а здаецца — да неба. Чаму так здаецца? Не ведаю. Магчыма, таму, што неба са мною заўжды. Яно паўсюдна. Я наогул не памятаю такога моманту ў сваім жыцці, каб ішла або ехала кудысьці і не пазірала ў неба, не памятала пра яго. Таму што неба — неад'емная ўмова майго існавання на зямлі, нязменны фон для маёй жыццядзейнасці, неабходнасць, без якой ніводная, нават самая невыразная, думка, ніводзін, нават самы непатрэбны, радок, ніводнае памкненне не могуць успыхнуць, нарадзіцца і выкрышталізавацца ў маёй душы, каб затым пераўтварыцца ў штосьці канкрэтна-рэальнае. Напрыклад, у верш.

### Сутонне

Сутонне — час для чарадзейства. Час паміж днём і вечарам, калі дзень ужо скончыўся, а вечар яшчэ не надышоў. Сутонне — гэта нябачная мяжа, таямнічы пераход, падрыхтоўка да наступнай часткі сутак. У гэты час слепнуць не толькі куры.

Ты няўцямна назіраеш, як сціраюцца колеры, робяцца невыразнымі відарысы навакольных прадметаў, як быццам нехта нябачны размыў іх вадзяністаю шэраю фарбай.

Тое самае адбываецца і ў хаце. Стараешся прытуліцца спінай да печкі-кахлянкі, якая зімою адчувае сябе сапраўднай царыцай, — куды ж без яе цяпла людзям? Стараешся стаць так, каб азіраць увесь пакой, не прапусціць ніводнай дзеі.

Усё пачынаецца павольна. Патрэскваюць паленцы ў печцы, адкідваючы няяркія водбліскі на падлогу. З'яўляюцца язычкі ценяў. Яны разрастаюцца ўшыркі, з кожным імгненнем робяцца даўжэйшымі, скручваюцца ў неверагодныя карункі, паўзуць да канапы, шафы, па сценах, фіранках — на столь. Пачынаецца баль ценяў. І ты заміраеш, стойваючы дыханне, расплюшчваеш шырэй вочы і не міргаеш — каб хоць не прапусціць гэтае чароўнае відовішча! А цені ўжо запаўняюць сабою ўвесь пакой, усю прастору. Яны звіваюцца змеямі, курчацца над тваёю галавой. Яны — ты гэта адчуваеш усёй сваёй істотаю — вось-вось абрынуцца на цябе грандыёзна і патэтычна, каб шчыльна атуліць, праглынуць... А можа, каб уцягнуць і закруціць у сваім дзіўным вар'яцкім танцы?!. Страшна, і ты заплюшчваеш у чаканні вочы... І раптам уздрыгваеш, і — так бывае амаль заўсёды — ускрыкваеш: «А-а!»

Гэта бабуля незаўважна зайшла ў пакой і запаліла святло. Сутоневая феерыя скончылася — распачаўся вечар. Звычайны.

### Вечар смутку

Ніколі не ведаю, калі ён прыйдзе, гэты вечар смутку, таму што ён не падпарадкоўваецца ніякаму раскладу і не папярэджвае зараней. Я, праўда, здагадваюся па пэўных прыкметах, а менавіта: пачынаюць раздражняць тэлефонныя званкі сяброўак, адхіляюцца просьбы пра сустрэчы на гэты дзень, зноў шчэміць сэрца даўняя крыўда, і нясцерпна хочацца плакаць. Ад чаго? Ды ад усяго, ад самай маленькай дробязі, што ўсплыве раптам перад мокрымі вачыма нечаканым успамінам і паласне напружанае да мяжы трываласці сэрца балючым лязом жалю. І пачынаецца...

Не знаходзіш сабе месца, соўгаешся па хаце з кута ў кут, як загнаны лясны звер, абкладзены з усіх бакоў варожымі позіркамі і рулямі паляўнічых стрэльбаў. «Што да чаго?» — злуешся. І хапаешся за справы — яны найлепш раней выратоўвалі, выводзілі з гэтага пакутлівага стану душу, ратавалі. А сёння вось і праца не дапамагае. Уключаю музыку — так патрабуе, вымагае ўся мая сутнасць. Музыка — неабходная ўмова і прыналежнасць вечара смутку, у прыватнасці, зразумела, майго. Фартэпіяна... Гэта павінна быць толькі фартэпіяна! Рахманінаў або Шапэн. Мой Сяргей Рахманінаў — гэта Канцэрт № 2 для фартэпіяна з аркестрам, асабліва першая частка, драматызм якой дасягае неверагоднага трагізму, становячыся акампанементам да мелодыі майго сённяшняга душэўнага стану. Пачуцці захлынаюць цябе ўсю, з ног да галавы ці наадварот, і, калі дасягаюць найвышэйшага ўздыму, калі твой эмацыянальны выбух зліваецца з музычнай кульмінацыяй твора, ты пачынаеш плакаць. Наўзрыд, моцна і... непрыгожа.

Слёзы ачышчаюць — гэта вядома і выпрабавана. Мо таму, што амываюць душу?.. І гэта бясспрэчна, таму што неўзабаве хочацца іншай музыкі. Шапэна?.. Так. Празрысты, крыштальны накцюрн — любы наўгад, куды патрапіць камп'ютарная мышка, — перанясе тваю душу, а там і розум, і свядомасць, у новую танальнасць пачуццяў, на новую эмацыянальную хвалю. І, безумоўна, ужо ніжэйшую і цішэйшую за папярэднюю.

Пачынаецца спад, у музыцы — развязка. Але не, што вы?! Хіба можа так хутка адпусціць вас ад сябе гэты сумны вечар? Калі ён прыйшоў, дык высмакча з вас ужо ўсё да апошняй слязінкі, вытрыбушыць нутро дачыста, да дна, да такой ступені, пакуль на тым далёкім і глыбокім цёмным яго дне не з'явіцца першая светлая прагалінка. Праўда, перад гэтым будзе яшчэ рэпрыза. Толькі цяпер ужо пад шыкоўныя любоўныя песні Алены Ваенгі і Любові Успенскай. «Крый Божа!» — падумае нехта з сапраўдных меламанаў. Пры чым тут Шапэн і Рахманінаў, і гэтыя, далёка не лепшыя ўзоры сучаснай эстрады?!. Ах, мае даражэнькія, што вам адказаць, нават не ведаю... І, здаецца, не хачу. Магчыма, і выбар гэты — не мой... Толькі ж душа вярнулася ва ўлонне сваё паспакайнелая, пасвятлелая, ачышчаная ад назапашанага жыццёвага бруду. На які тэрмін?.. Таксама невядома. Напэўна, да наступнага вечара смутку.

### Забраная музыка

Ты музыку забраў з майго жыцця. Я зразумела гэта не адразу пасля таго, як ты пакінуў мяне на разарванне самоце. Спачатку ўва мне бушавалі жарсці. Яны заглушалі ўсе іншыя гукі свету. Затым наступіла цішыня, ды такая маўклівая, што аглушыла мяне гэтай сваёй маўклівасцю. І тады мяне працяла наскрозь страшным усведамленнем — гэта не цішыня сама па сабе: у маім жыцці не стала галоўнага майго спадарожніка, неабходнага фону існавання — МУЗЫКІ! Нават знік той унутраны рытм, які суправаджаў мяне ўсюды: на працы, падчас складання верша, у роздуме, у сне... Мне здаецца, што ў кожнага ёсць свой унутраны музычны рытм. Для кагосьці гэтае знікненне — не здарэнне, маўляў, «ну і што тут такога?» Для мяне — катастрофа. Як забраны Край! Як — жыццё!.. Таму што музыка была нашай, агульнай... А цяпер у цябе зусім іншая музыка, а ў мяне няма ніякай. І ўжо не будзе ніколі, таму што музыка не чалавек, ёй здрадзіць немагчыма. Яе можна толькі забраць, як зрабіў ты.

Ты музыку забраў з майго жыцця, а гэта — найвялікшая са згуб. Я выплыла б з любога небыцця, а без яе не здолею, мой любы.

### Танцы

Танцы... Не спяшайцеся ўсміхацца, мае паважаныя! Я не пра тыя танцы, вясёлыя, энергічна-рытмічныя, падчас якіх можна бяздумна «адарвацца», як цяпер кажуць, і расслабіцца пасля доўгай (тыднёвай!) напружанай працы. Але не, напэўна, і я пра тыя самыя, сучасныя, рытмічныя, толькі з іншым напаўненнем — асабістым, душэўным.

Аднойчы ў жыцці кожнага, мяркую, узнікае такі дзень, калі нясцерпна хочацца танцаваць. Вы знаходзіце свае любімыя дыскі, вымаеце з шуфляды запылены «бум-боксік» і пачынаеце заводзіцца. А дакладней ваша нутро ўжо заведзена і даўно чакае гэтай індывідуальнай танцавальнай праграмы. Вы пачынаеце рухацца пад музыку ўсё хутчэй і разняволеней, кружыцца, круціцца, скакаць, выраблюючы рукамі, нагамі — усім целам — нейкія неверагодныя выкрутасы, трэсці раскудлачанымі валасамі... Да тае хвіліны, пакуль, нарэшце, ваша душа не аддасць назапашаны за мінулы час боль. Вышэйшая асалода — слёзы. У іх усё, што не выкажаш нікому і нават сабе: крыўда, самота, няўпэўненасць, неразуменне, некаханне, журба, адзінота...

Вельмі дзіўна, але менавіта пад хуткую рытмічную музыку дасягаецца патрэбны эфект: ваша цела стамляецца, цалкам паслабляецца і вызваляе душу ад усяго наноснага і непатрэбнага, што яна ўсмактала без роздуму, як губка, з акаляючага вас свету. Становіцца лягчэй, а потым і зусім лёгка і светла. З'яўляецца нават сумненне, а часам робіцца неяк брыдка — навошта я так сябе паводзіў і ці не хворы я на ўсю галаву?!

Не хворы, не хвалюйцеся, а гэтыя думкі сведчаць толькі пра тое, што вы ацаліліся і зноў гатовы да працы праведнай. Так што танцуйце на здароўе танцы сваёй душы!

### Манашка

Кожны дзень я вяртаюся з працы па той жа дарозе: іду паўз «Швейцарскую даліну» па вуліцы Віленскай на тралейбусны прыпынак і, крыху счакаўшы, ускокваю ў «двойку».

Вось і сёння ўскочыла і села на адзінае незанятае месца блізка ад кабіны вадзіцеля. Стаяла неверагодная спёка, і хаця на мне быў лёгкі белы гарнітур, па целе струменьчыкамі збягаў пот. Пакорпалася ў сумцы і, дастаўшы адтуль веер, пачала абмахваць гарачы мокры твар.

Неўзабаве вочы мае спыніліся на спадарожніцы, якая ўладкавалася насупраць. «Госпадзі! І што ж гэта яна?» — амаль не вырвалася ўслых маё здзіўленне. Маладая дзяўчына, ну, зусім яшчэ дзяўчо, была апранута ва ўсё чорнае. Пантофлі, панчохі (і гэта ў неверагодную гарачыню!), доўгая спадніца, блузка, сардак з доўгімі рукавамі і нават стужка ў саламянай касе — усё было чорнае. «Памёр хто ў яе, ці што?» — мільганула думка. Я адважылася зірнуць у твар дзяўчыны і разгубілася. Гэта быў не проста прыгожы, але незвычайны твар. На фоне чорнага ўбрання ён падаваўся вылітым з воску бела-матавага колеру з блакітнаватымі водсветамі, якія выходзілі з шырока расплюшчаных сініх вачэй, аздобленых цёмнымі вейкамі. Дзяўчына не рэагавала ні на якія рухі ў тралейбусе. Яна спакойна пазірала праз шыбу, аддаўшыся, відаць, цалкам нейкім сваім думкам.

Выклік! Далібог, выклік! Наўмысна так апранулася, каб падражніць увесь гэты бела-ружовы, напаўголы натоўп пасажыраў!.. А можа, яна готка?!. Моладзь зараз проста з глузду з'ехала на гэтай плыні!.. І які спакой, якая незалежнасць, як свецяцца вочы!.. Быццам ніхто ніколі яе не крыўдзіў, не падманваў, не... І не паспытае яна ў жыцці гэтага ніколі — во які выгляд! А галоўнае, аніякай справы да нас, людзей! Сядзіць сабе і ў вус не дзьме, князёўна чорная!..

І раптам маё абурэнне, якое толькі пачало расці, апала і знікла. Так ападаюць на вачах пялёсткі перастоенай на сонцы півоні, калі раптам кране яе пралятаючы побач бяздумны матыль. Адно імгненне — і няма пышнай кветкі!

Не, яна не выклік, не готка, не чорная князёўна...

Стала няёмка — за свой белы гарнітур, адкрытыя ногі і рукі, намаляваныя вусны. Гэта я — выклік, старая белая варона! А гэтае маладзенькае дзяўчо — хутчэй заклік да нас усіх: бязмоўны, ціхі, ненавязлівы...

Мы выйшлі на адным прыпынку, але падаліся ў розныя бакі. Захацелася азірнуцца. Захацелася выракчыся ад невыноснай будзённай стракатасці і мітусні, ад усяго, ад чаго здолела адмовіцца гэтая маладая істота. Захацелася хоць на імгненне адчуць і ўбачыць тое, што адчувае і бачыць яна, узнесціся над тым, над чым узнеслася яна — рахманая манашка.

ЛіМаГрафія



Анастасія ГРЫШЧУК

# Што рабіць, калі вы геній?

Галоўнае — не хвалюйцеся. Не вы першы, не вы апошні. Зрэшты, такіх, як вы, ніколі не было і не будзе, гэта таксама трэба ўсведамляць. Запарце зялёную гарбату, прыміце ванну, пачытайце вершы Ясеніна. Палегчала? Цудоўна.

Ад гэтага дня не стрымлівайце сваіх паэтычных памкненняў. Цяпер, калі вы ўсвядомілі сваю выключнасць, вы не маеце права хаваць ад свету свой нябесны геній. Калі адчуеце дзіўнае хваляванне — сядайце пісаць. Калі выдасца бяссонная ноч — сядайце пісаць. Калі раптам, барані бог, пачнiце сумнявацца ў сваёй геніяльнасці — сядайце пісаць. Нават калі адчуеце пякотку — сядайце пісаць, хоць бы ў тэрапеўтычных мэтах. «Ні дня без радка!» — вось дэвіз плебеяў пяра. Вы ж, як патрыцый, мусіце кіравацца лозунгам больш высакародным: «Ні дня без шэдэўра!»

Як мага часцей рыфмуйце «вочы — ночы», «сонца — бясконца», «кроў — любоў», «неба — хлеба», «восень — просінь», «поле — раздолле» і г. д. Нездарма кажуць: усё геніяльнае проста. Таксама не праміныце згадаць у кожным вершы ці хоць бы праз верш Бога. Па-першае, вы вінны яму сваёй геніяльнасцю, і цяпер ён чакае ад вас падзякі, што цалкам справядліва. Па-другое, гэта ўздыме вас над іншымі геніямі, якія легкадумна пагарджаюць такім сродкамператварыць шараговы верш у глыбокі, поўны тугі і роздуму Твор.

Калі не пішацца — не панікуйце. Гэта не значыць, што вы перасталі быць геніем ці што муза здраджвае вам з суседам, поўнай бяздарнасцю, між намі кажучы. Проста неба выпрабоўвае вас на цвёрдасць. Дакажыце яму, што вы вартыя свайго дару. Пачытайце Ясеніна, Пушкіна, Асадава. Можна Фета. Калі ж вы раптам пішаце па-беларуску, звярніцеся да дакастрычніцкай творчасці Купалы — яна таксама няблага натхняе на подзвіг. Як начытаецеся, сядайце пісаць. Калі раптам заўважыце, што вершы вашы вельмі падобны да нядаўна прачытаных, радуйцеся: гэта значыць, што між вамі і класікамі пракладзены ментальны мост і цяпер вы можаце ва ўсёй паўнаце гэтага слова звацца пераемнікам класічнай традыцыі.

Аднак і вам трэба адпачываць. Найлепшы для генія варыянт вось які. Вазьміце школьны падручнік па беларускай літаратуры. Пагартайце, пачытайце і падумайце, якія з вашых твораў лепш прапанаваць для школьнай праграмы. У тым, што аднойчы беларускія дзеткі будуць зачытвацца вашымі радкамі, сумненняў быць не можа. Пытанне цяпер адно: што менавіта яны стануць вучыць на памяць, натхнёна ззяючы вачыма? Таксама прыглядзьцеся да патэнцыяльных «суседзяў» — яны мусяць быць як мага мацнейшымі, інакш размах вашага таленту папросту знішчыць слабыя творы, а вы як рупліўца на ніве роднай літаратуры не можаце гэтага дапусціць.

Вы павінны быць падрыхтаваны да таго, што сучаснікі не прымуць вашую творчасць. Геніі так часта застаюцца незразуметымі! Вялікія ідэі не па зубах простым людзям, даруйце ім. Але і адступаць нельга! Дасылайце творы ўва ўсе часопісы, а лепей — прыносьце самі. Потым рэдактары з захапленнем і ціхім сумам будуць расказваць, якім вы былі вялікім чалавекам. Не будуць друкаваць — настойвайце, тлумачце, як гэта патрэбна роднай літаратуры і чалавецтву ў цэлым, а калі трэба — то і пагражайце. Напрыклад, скажыце, што сябруеце з жонкай губернатара. Або дасылайце лісты ў вышэйшыя інстанцыі. Упэўнена: там зразумеюць і дапамогуць. Але часопісаў мала. Штурмуйце выдавецтвы, радыё і тэлебачанне. Няхай сябры пішуць пра вас артыкулы і дасылаюць хоць бы нам — мы з радасцю надрукуем. Так, крок за крокам, вы наблізіце ваш геній да народа — і народ будзе вам удзячны.

Апошні пункт мусіў быць прысвечаны Нобелеўскай прэміі, аднак ці вартая яна вас?..

Плёну вам і светлага розуму!

# «Ствараем новае аблічча...»:

## 150 гадоў таму 22 сакавіка 1864 года на Лукішскай плошчы ў Вільні быў пакараны смерцю беларускі рэвалюцыянер Кастусь Каліноўскі.

### ВЯРТАННЕ ГЕРОЯ

Для гісторыі ўсе падзеі, факты і асобы аднолькава важныя. Але чалавецтва, страціўшы надзею захаваць у сваёй памяці ўсё, прасейвае іх праз аксіялагічнае сіта. Акрамя таго, выбітныя гістарычныя падзеі і асобы міфалагізуюцца, прыкрываючыся смугой то легендарнасці, то сакральнасці, то дэманічнасці. Паказальна, што гэтая «смуга» аказваецца надзвычай густой і трывалай, застывае ў стэрэатыпах, разбурыць якія бывае вельмі цяжка. Тое ж атрымалася з Кастусём Каліноўскім.

Яго, аднаго з кіраўнікоў паўстанцкага руху 1863 — 1864 гадоў у Беларусі і Літве, царская сатрапы павесілі 22 сакавіка 1864 года на Лукішскай плошчы ў Вільні, а потым зрабілі рашучыя захады для дыскрэдытацыі добрага імя паўстанца. Пры гэтым не грэбавалі фальсіфікацыямі. Па-першае, паўстанне было «атэставана» як польская панская крамола, якая, аказваецца, усяго толькі ўносіла смуту ў «рускае сямейства», Каліноўскі ж — сепаратыст, які хацеў адарваць Беларусь ад гэтага сямейства і аддаць яе памешчыцкай Польшчы. У Варшаве паўстанне таксама лічылі польскім, шляхецкім, скіраваным на аднаўленне Рэчы Паспалітай у дападзельных межах. Ну, а Каліноўскі? Вядома ж, — сцвярджалі варшавяне, — быў ён польскім патрыётам, палымяным ненавіснікам царызму і Расійскай імперыі ў цэлым; мужны, але меў схільнасць да раскольніцкай дзейнасці, таму часам не падпарадкоўваўся загадам і пастановам Цэнтральнага нарадовага камітэта. Паслядоўна дэманізаваўся воблік К. Каліноўскага і ў даследаваннях афіцыйнага расійскага гісторыёграфа В. Ратча, які па загадзе М. Мураўёва напісаў гісторыю «польскага мяцяжу»: усё тыя ж дыктатарскія схільнасці, жорсткасць (нібыта вешаў беларускіх сялян за адмову ваяваць пад яго штандарамі), уладалюбства і прапольскасць. Такім чынам, як само паўстанне, так і яго героі, у тым ліку К. Каліноўскі, былі ўціснуты ў каляную гістарычную ўпакоўку, так што калі б не адбылося новае, гэтым разам больш маштабнае і эфектыўнае паўстанне — Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, — тая ўпакоўка засталася б некранутай.

Адным з вынікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі з'явілася абвяшчэнне ў ноч з 1 на 2 студзеня 1919 года Маніфеста аб стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Перад маладой еўрапейскай дзяржавай адразу паўстала мноства найскладанейшых праблем, сярод якіх — самапрэзентацыя. Міжнародная супольнасць з падачы Янкі Купалы прыняла ў свой час да ведама, што агромністая грамада беларусаў рушыла ў паход за права «людзьмі звацца». І цяпер, заняўшы «свой пачэсны пасад між народамі», ім трэба было прад'явіць уласныя нацыянальныя «рэквізіты». На шчасце, пачынацы даводзілася не на голым месцы. Задоўга да абвяшчэння «Маніфеста» пра беларускі народ, яго менталітэт, фальклор, мову і літаратуру было апублікавана шмат грунтоўных даследаванняў. На гэтым фоне цьмянавата выглядала нацыянальная гісторыя. Таму з'яўленне ў 1923 годзе гістарычнай драмы Е. Міровіча «Кастусь Каліноўскі» ўяўляецца цалкам заканамерным: яно было непасрэдным адказам на сацыяльна-палітычны заказ часу.

### ПЕРШАЯ ГІСТАРЫЧНАЯ ДРАМА

Наогул, у першыя паслярэвалюцыйныя гады беларуская драматургія, якая шчодра распрацоўвала фальклорныя сюжэты, добра папрацавала на вырашэнне народаадкрывальніцкай праблемы. Вось толькі адзін прыклад. У 1921 годзе Е. Міровіч на сцэне Белдзяржтэатра паставіў музычна-этнаграфічную драму М. Чарота «На Купалле». Спектакль па гэтай п'есе карыстаўся ў мінскага гледача вялізным поспехам. У 1923 годзе тэатр запрасілі ў Маскву для ўдзелу ва Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўцы. На маскоўскага гледача спектакль таксама зрабіў вельмі моцнае ўражанне. Адзін з маскоўскіх рэцэнзентаў, напрыклад, сцвярджаў, што «На Купалле» раскрыла рускаму гледачу душу беларускага народа лепш, чым бы гэта зрабілі дзясяткі спецыяльных навуковых артыкулаў. Зрэшты, такія спектаклі заклікаы былі раскрываць душу беларуса і самому беларусу. Беларускі народ знаходзіўся ў стане самапазнання, і менавіта ў фальклоры можна было знайсці адказы на вельмі многія пытанні.

Іх, гэтыя адказы, можна знайсці і ў п'есе «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча. Хоць яна лічыцца першай гістарычнай драмай у беларускай літаратуры, часам яе называюць драмай фальклорна-гістарычнай. Падставай таму — недахоп факталагічнай канкрэтыкі, добрага ведання гістарычных асаблівасцей разгортвання паўстання. Іншымі словамі, не даваяючы афіцыёзным трактоўкам падзей, аўтар мусіў шмат у чым давярацца народнай памяці пра іх, а таксама сведчанням непасрэдных удзельнікаў. У адпаведнасці з гэтым і воблік Кастуся Каліноўскага падлягаў своеасаблівай рэканструкцыі. «Ствараючы аблічча свету новага, стварае мы і новае аблічча тым, хто загінуў». Гэтыя словы румынскай паэтэсы Марыі Бануш Аркадзь Куляшоў значна пазней выкарыстаў у якасці эпіграфа да паэмы «Хамуціус», але яны на дзіва дакладна характарызуюць і творчы падыход Е. Міровіча. Час паказаў, што шлях ён выбраў правільна. Абапіраючыся на ўжо вядомае, але ачышчанае ад яўных афіцыёзна-паклёпніцкіх інсінуацый, даваяючыся мастацкай інтуіцыі, драматург прэзентаваў у сваім творы той узровень гістарычнай праўды, да якога гісторыкі-прафесіяналы наблізяцца толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў. Прычына поспеху ў тым, што яму ўдалося адшукаць верагоднасна-прымальную псіхалагічную дамінанту характару К. Каліноўскага.

Канфлікт твора надзвычай напружаны. Гарачыя сутыкненні пачынаюцца з першых жа сцэн. Барацьба розных поглядаў разгортваецца ў асноўным вакол пытання пра адносіны Белага і Чырвонага жондаў да лёсу Беларусі, да працоўнага сялянства. Прадстаўнікі Белага жонду жадалі, каб селянін і надалей хваляванняў заставаўся паслухмянай канякай: усцягнуў бы паўстанцкі воз на пераможную вяршыню, а потым даўся б зноў паставіць сябе ў аглоблі паднявольнай працы на панскіх гонях. К. Каліноўскі добра разумеў, што ў кожнай справе, а тым больш звязанай са смяротнай рызыкай, павінна прысутнічаць матывацыя. У спрэчках з кіраўнікамі Белага жонду К. Каліноўскі рашуча адстойваў пункты сялянскіх патрабаванняў: памешчыкі, манастыры, касцёлы павінны добраахвотна адмовіцца на карысць малазямельных сялян ад зямельнай уласнасці, пакінуўшы сабе столькі, колькі можна апрацаваць уласнымі сіламі. Да тых жа, хто не згодзіцца на падзел, ужыць сродкі рэвалюцыйнага тэрору. У адстойванні ўласных пазіцый К. Каліноўскі выгадна адрозніваецца ад апанентаў: для «белых» саслоўныя амбіцыі вышэй за ўсё, нават за зыход паўстання. Геніяльны чалавек, які валодаў стратэгічным мысленнем, разумеў, што толькі апора на шырокія сялянскія масы гарантуе паўстанню поспех. Ніякая Еўропа, ніякі князь Чартарыйскі, на каго вельмі спадзяваліся «белыя», не здолеюць прымусіць царскі ўрад вызваліць Польшчу, Беларусь і Літву.

Характар героя вельмі гарманічны: ніколі слова яго не разыходзілася са справай. Драматург палічыў патрэбным

# Горкі смех рэжысёра




**Нашы літаратары пішуць творы выключна сур'ёзныя. Вось табе суровая праўда вайны, вось табе трагічная любоў, а вось — экзістэнцыя на фоне руін чалавечай душы. Усё, што хочаш, толькі не тая самая кніжыца, тонкая і лёгкая — ува ўсіх сэнсах, якую можна ўзяць з сабой, скажам, у падарожжа з Мінска ў Полацк.**

Тым большая бяда, калі твая праца адно з кнігамі і звязаная, так што свет ты бачыш з-за ўсыпаных літарамі старонак. Стамлёны сонцам навукі і высокай літаратуры, ты шукаеш цянёк, лёгкі, прыемны. У выніку высвятляецца, што ехаць «па цянёк» трэба ў Расію, дзе знойдуцца і фэнтэзі, і дэтэктывы, і ўсякія перакладныя цікавосткі. Але ж не хочацца чужога, хочацца свайго.

Натуральна, сур'ёзнасць нашых творцаў можна лёгка патлумачыць: яны працуюць на развіццё літаратуры, якая — кожны школьнік ведае — так доўга была, бедная, занядбана. Яна развівалася паскоранымі тэмпамі, і вось, разагнаная, як той лакаматыў, нясецца ў светлую будучыню, так што пасажыры, у якіх мы бачым чытачоў, не паспяваюць зразумець, а што ж там, за вокнамі, праносіцца. І ім таксама, як і мне, не хапае кніжак, якія можна было б пачытаць у гэтым бясконцым рэйсе.

Цікава, што ў змаганні за развіццё літаратуры забываюцца на ўсебаковасць, пад якой я разумею масавую літаратуру ў тым ліку. Пра неабходнасць яе неаднаразова казаў Уладзімір Караткевіч (праўда, яго талент пастаянна выходзіў з жанравых берагоў масліта), працягвае казаць Сяргей Кавалёў (кніга «Партрэт шкла»), а Людміла Рублеўская актыўна на гэта працуе, хоць у яе выпадку паўтараецца сітуацыя з Караткевічам.

Гэта ўсё да чаго? Да кнігі Алёны Беланожкі «Чамадан з кракадзілавай скуры».

Аповесць не цэліць, дзякуй богу, у школьную праграму, не прэтэндуе на прэміі

# вобраз Кастуся Каліноўскага ў беларускай драматургіі

паказаць паболей сцэн, у якіх К. Каліноўскі выяўляе адвагу і мужнасць. Дарэчы, выдумляць аўтару не давялося: ён перанёс у твор звесткі, узятыя з пратаколаў судовай камісіі і з успамінаў паўстанцаў 1863 года. Разам з тым, часам гераізм выглядае малапераканаўчым, нават калі ўлічыць, што вобраз рамантызаваны. І ўсё праз тое, што аўтар не пераўпіўся растлумачыць, навошта герой падвяргае сябе смяротнай рызыцы — праводзіць, пераапрануўшыся, вылазкі ў стан ворагаў, выкрадае казну Мураўёва і г. д.

А вось у заключных сцэнах п'есы высокі гераізм персанажа не засланяецца ўскоснымі падрабязнасцямі, трагізм драматург перадаў умела, псіхалагічна пераканаўча. Кінуты ў камеру-адзіночку, К. Каліноўскі ўсвядоміў горкую справядлівасць вядомага выслоўя «Расія — турма народаў». Ён фізічна адчуў бязлітасны цяжар рэпрэсіўнай сістэмы царызму, але ў неадольнасць яе не хацеў верыць — і з бляскам прадэманстраваў гэта ў спрэчцы з Мураўёвым, які наведаў вязня напярэдадні пакарання. Гэтая сцэна з'яўляецца, бадай, адной з самых важных у п'есе, бо ў ёй аўтар робіць завяршальныя выразныя штрышкі да партрэта галоўнага героя. На пачатак, дзеля пераністройкі эмацыянальных рэгістраў сцэнічнай сітуацыі, ён вуснамі вартавога-наглядніка абвяшчае надзею: «Да вас ідзе генерал Мураўёў, пэўна памілуе…» Толькі той, хто сам пабываў у становішчы асуджанага на смерць, мог бы з пэўнасцю сказаць, што рабілася ў душы К. Каліноўскага, калі ён пачуў гэтыя словы. Але ён дастаткова добра вывучыў Мураўёва і ведаў, чаго чакаць ад «вешальніка», таму і не хаваў з'едлівага скептыцызму, слухаючы развагі яго пра марнасць рэвалюцыйных парыванняў і памкненняў да свабоды, пра неабходнасць скарыцца на літасць цара-бацюшкі. Без усякай аглядкі на дваранскі палітэс, гнеўна і пагардліва аспрэчваў малады рэвалюцыянер цынічна-прагматычныя сілагізмы мацёрага цемрашала, карніка, царскага сатрапа. І вешальнік захлынуўся бяссільнай ярасцю, бо зразумеў, што перамога яго прывідная. Такія людзі, як К. Каліноўскі, паміраюць толькі фізічна і смерцю сваёй натхняюць на барацьбу тысячы новых змагароў за свабоду. Пацвярджэннем таму — бунт у казематах турмы падчас выканання прысуду на Лукішскай плошчы.

## ПЯЦЬ УВАСКРАШЭННЯЎ КАЛІНОЎСКАГА

Вобраз Кастуся Каліноўскага ў мастацкай інтэрпрэтацыі Е. Міровіча набыў канцэптуальны кшталт, прынамсі, у беларускай драматургіі. У 1963 годзе па сцэнарыі Т. Хадкевіча рэжысёр П. Шамшур на Мінскай студыі навукова-папулярных і дакументальна-хранікальных фільмаў паставіў дакументальны фільм «Кастусь Каліноўскі», які гледачы ўспрынялі прыхільна. У СМІ фільм ацэньваўся толькі станоўча. Мастацкі ўзровень стужкі сапраўды даваў падставы для такіх ацэнак. Т. Хадкевіч не ставіў за мэту адкрыць новыя гістарычныя факты, затое здолеў пранікліва адабраць і ўмела скампанаваць ужо вядомыя звесткі пра паўстанне 1863 — 1864 гадоў, на фоне якіх намаляваў прывабны вобраз барацьбіта за свабоду.

Прыкладна ў такім жа ключы стварыўся вобраз К. Каліноўскага вядомым беларускім пісьменнікам М. Клімковічам у сцэнарыі аднайменнага балета, пастаўленага рэжысёрам Б. Мардвінавым на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР у 1957 годзе.

У другой палове XX стагоддзя ў беларускай драматургіі з'явілася яшчэ тры творы, прысвечаныя легендарнаму паўстанцкаму кіраўніку: трагедыя ў трох актах, трынаццаці карцінах «Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць» (1963) У. Караткевіча, драматычная паэма «Хамуціус» (1975) А. Куляшова і філасофская драма «Кастусь Каліноўскі» (1983) Э. Скобелева.

У сілавое поле творчай зацікаўленасці Э. Скобелева К. Каліноўскі трапіў тады, калі пісьменнік ажыццяўляў задуму стварэння серыі кніг пра выдатных людзей славянскага свету — падзвіжнікаў, мудрацоў і пакутнікаў. «Скобелеўскі» К. Каліноўскі выступае ва ўсіх трох іпастасях.

Напісанне п'есы У. Караткевіч прымяркоўваў да 100-гадовага юбілею паўстання 1863 — 1864 гадоў. «Дацкія» п'есы звычайна без праблем праходзілі на сцэны тэатраў і на старонкі друку. Аднак у гэтага твора праблемы ўзніклі, таму на сцэне Віцебскага тэатра імя Якуба Коласа рэжысёр В. Мазынскі паставіў яго толькі праз 15 гадоў — у 1978-м, а надрукавалі п'есу яшчэ пазней — у шостым нумары «Полымя» за 1980 год. А твор нешараговы!

Драматург вызначыў месца дзеяння героя на «балансіры» паміж жыццём і смерцю, што надзвычай абвастрыла сцэнічную інтрыгу. Ад першых радкоў п'есы адчуваецца, што паўстанне асуджана на смерць. І не менш пэўна адчуваецца, што героі яе, і перш за ўсё К. Каліноўскі, абавязкова пройдуць трагічны шлях. Здавалася б, эмацыянальная танальнасць п'есы мусіла набыць гнятліва-змрочнае адценне. І калі гэтага не адбылося, дык толькі таму, што дзея прасякнута духам тэатральнай карнавальнасці, а характар галоўнага героя — аптымізмам, верай у перамогу ідэалаў, за якія ён змагаецца. К. Каліноўскі не проста цэнтральная фігура твора: ад яго зыходзяць усе сюжэтныя лініі. На Вісле ненавідзяць рускіх сатрапаў, на Няве гневаюцца на польскіх сепаратыстаў, а ўсе разам не прымаюць пазіцыю К. Каліноўскага, які стаў на шлях беларускага нацыянальнага вызвалення. Барацьба з Каліноўскім, барацьба за Каліноўскага, рамантычнае змаганне за справядлівасць — усё гэта і склала размаітую сюжэтна-канфліктную аснову твора.

Драма багатая на кантрасты. Менавіта на іх пабудавана сцэна-дыспут К. Каліноўскага і генерал-губернатара М. Мураўёва. Апошні вельмі цікавы драматургу як антыпод змагара за свабоду: ён меркаваў, што душа былога дзекабрыста не памерла зусім. «Я быў такі, як ты», — гаворыць кат Каліноўскаму, прапануючы яму памілаванне ўзамен на адступніцтва. Але ў адказ чуе словы ганьбы і пагарды — абвінаваўчы вердыкт за подласць ад імя новага пакалення.

Драматычная паэма А. Куляшова «Хамуціус», якая ставілася ў 1981 годзе Брэсцкім абласным драматычным тэатрам (рэжысёр С. Еўдашэнка), Беларускім радыё (рэжысёр С. Гурыч) і пад назвай «Майго юнацтва крылы» Тэатрам юнага гледача (рэжысёр У. Савіцкі) у 2011 годзе, па праве лічыцца творам знакавым для беларускай літаратуры, у якім знайшло далейшае развіццё філасофскае асэнсаванне гістарычнага лёсу Айчыны ў глабальных цывілізацыйных сувымярэннях (Беларусь — Свет — Сусвет), распачатае паэтам у паэмах «Маналог», «Цунамі», «Дарога да акіяна» і інш. Далейшае развіццё атрымала і мастацкае ўвасабленне вобраза К. Каліноўскага. Менавіта яго асобай прэзентаваў аўтар далучанасць зямлякоў да сфер сусветнай гуманістыкі. Аўтар даводзіць, што лідарам паўстання Кастусь Каліноўскі (адцясніўшы прадстаўнікоў Варшаўскага цэнтральнага нарадовага



Кастусь Каліноўскі. Фота А. Бальдзі, 1862 г.



Рукапіс паэмы «Хамуціус» А. Куляшова.

камітэта і Віленскага камітэта «белых») стаў таму, што радавыя інсургенты падтрымалі яго ў імкненнях даць селяніну зямлю — не толькі для харчовага пражытку, але і зямлю, на якой можна будзе жыць у шчасці і свабодзе. Дзеля дасягнення гэтай мэты герой гатовы адмовіцца ад усяго, перадусім — ад сваёй «чарнабровай галубкі», Марысі Ямант, вобраз якой з'яўляецца вялікай мастацкай удачай паэмы. З неймавернай настойлівасцю і самаахвярнасцю яна спрабуе адбіць каханага ад жорсткай сапернiцы — рэвалюцыі, стараецца вывесці яго з зоны смяротнай небяспекі. І калі канчаткова пераканалася ў марнасці сваіх намаганняў, гаворыць Кастусю страшныя словы: «Ідзі!.. Не я цябе кляну, а дзеці, што каханнем не зачаты…»

Уражлівай метафарай завяршаецца твор. Праз 7 гадоў, вясной 1871-га, у вестыбюлі гасцініцы, дзе спяць байцы Парыжскай камуны, з'яўляецца ў вопратцы манашкі Марыська. Яна пазнае камунарскага генерала В. Урублеўскага, але шукае свайго Кастуся. А шукаць іх трэба там, дзе змагаюцца за Свабоду, Роўнасць і Справядлівасць.

За 90 гадоў беларуская драматургія назапасіла значны досвед мастацкага ўвасаблення вобраза К. Каліноўскага. Сёння беларусы, у тым ліку і прафесійныя гісторыкі, ідэнтыфікуюць яго асобу з абавязковай арыентацыяй на драматургічнае ўвасабленне. І гэта лішні раз даказвае, што творчыя падыходы нашых драматургаў былі слушнымі і плённымі.

**Сцяпан ЛАЎШУК**

---

і наступнае ўвекавечанне аўтаркі ў стагоддзях. Ды і сама аўтарка занадта разумная і самаіранічная для падобных закідаў. Місія «Чамадана», калі ў яго ўвогуле можа быць місія, — расслабленне. Чытач звернецца да кнігі, каб адпачыць. Аўтарка пісала яе, здаецца, з той самай мэтай. Сюжэт немудрагелісты: энергічная гераіня, дырэктарка прадзюсарскага цэнтра, робіць хлопцу прапанову, забірае яго ў бацькоў і вяртаецца ў Мінск, аднак па дарозе іх перахопліваюць бандыты: высвятляецца, што спадарыня вінная невядомым людзям вялізную суму — 500 мільёнаў еўра! Далей сюжэт разгортваецца ў цэлым прадказальна, але ў пэўны момант ты разумееш, што менавіта так і павінна быць.

«Чамадан» названы авантурнай аповесцю, і гэта натуральна, але гэта другасна. Першасным азначэннем мусіць стацца фарс, кажучы словамі гераіні, «шапіто». Уся гісторыя — пачынаючы ад сватання, з кветкамі, песнямі пад вакном і «мужчынскай» размовай на кухні паміж дзяўчынай і будучым свёкрам, і заканчваючы выкрыццём глабальнага плана па кіраванні светам — адзін вялікі, шумны, стракаты фарс. У пэўнай ступені гэта нават не авантура, а пародыя на яе.

Шок выклікае вобраз галоўнай гераіні, які відавочна змаляваны з аўтаркі. Так, кожны твор пісьменніка, сур'ёзны ці жартоўны, — аўтапартрэт у пэўнай ступені, але тут мы маем справу ледзьве не з фатаграфічным падабенствам. Пачнём з імя — Аліна Міхайлаўна (пісьменніцу клічуць Алёна Міхайлаўна). Праца яе — «арганізацыя радасці», кажучы словамі героя (спадарыня Алёна яшчэ і рэжысёр). Заўсёдная энергічнасць, часам нават эксцэнтрычнасць, востры язык і нязменная жыццярадаснасць — на людзях. Канечне, ты разумееш, што чалавек не можа быць такім насамрэч і аднойчы чытач убачыць сапраўдную Аліну. Урэшце ствараецца ўражанне, што пісьменніца стамілася ад бясконцай ігры і, каб не звар'яцець, выліла свой боль і тугу, загарнуўшы іх у яркую паперку.

Пры ўсёй авантурнасці аповесць нельга назваць і чыстым экшнам. На сюжэт пастаянна накладваюцца новыя тэмы — роля грошай у жыцці, каханне, адзінота, вялікая моц мары, абсурдны лад свету і пад. — якія загрувашчваюць сюжэт з аднаго боку і павышаюць узровень твору з іншага. Часам развагі герояў набываюць філасафічны флёр, але перарасці ў нешта сур'ёзнае ім замінае абраная аўтаркай форма, ды і ў кантэксце татальнага абсурду і фарсу любая глыбокая думка аўтаматычна ператворыцца ў самапародыю. Калі ж паглядзець з іншага боку, г. зн. адштурхоўвацца ад таго, што развагі на сур'ёзныя тэмы маюць і інтанацыю адпаведную, то смех, рассыпаны між слоў, стане горкім і нават няўцешным. Гэткі самотны блазан у кніжным варыянце.

Крок за крокам чытач набліжаецца да таго, што ў народзе завуць «жыццёвымі ісцінамі»: не ў грошах шчасце; жанчына можа быць моцнай, але моц гэтая наўрад ці прынясе ёй шчасце; дзіцячая мара здольная на многае; любоў за грошы не прадаецца і г. д. Пры гэтым перад намі разгортваецца ва ўсёй сваёй непрыгляднасці (а для некага — прывабнасці) жыццё творчых людзей.

Кнігу робіць цікавай, відаць, не стольскі сюжэт, але яе мова, дасціпная, вострая, іскрыстая. І галоўнае — насычаная смехам, якi мае надзвычай шырокі дыяпазон — ад лёгкага пакеплівання да горычы. Часам ён нагадвае нават «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, але справа не ў мове і не ў інтэртэксце, але ў настраёвасці. Адзіная прэтэнзія да аўтаркі і рэдактара — няправільна ўжытыя прыназоўнікі «з-за» (у сэнсе «па прычыне») замест «праз», а таксама дзеясловў «біць», які ў загадным ладзе ператварыўся ў «Бей!» замест «Бі!» Гэта можна было б спісаць на непісьменнасць герояў, аднак калі яны ўжо гавораць на літаратурнай беларускай мове, то мусілі б ведаць такія рэчы. Лёгкае недаўменне выклікае таксама афармленне вокладкі: мілая безаблічная дзяўчына ніяк не падпадае пад вобраз, створаны аўтаркай.

Тое, што кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда» с пазнакай «Бібліятэка часопіса «Маладосць», указвае на патэнцыяльную чытацкую аўдыторыю. Аднак справа тут хутчэй не ў змесце твора, але ў тым, што «дарослыя» не захочуць «марнаваць» час на «несур'ёзную» літаратуру.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Ад вокнаў вясковых да зор





### З БЛАСЛАВЕННЯ МАЙСТРА

Перачытваю кніжачку, выдадзеную ў далёкім 1980 годзе ў славутай серыі «Першая кніга паэта». На вокладцы пазначана: *Мікола Мятліцкі. «Абеліск у жыце»*. Першая кніга… Будзе іх пасля багата, больш прэзентабельна і дыхтоўна выдадзеных, у цвёрдых пераплётах — кніг знанага паэта, які даўно ажыццявіўся і сцвердзіўся як мастак. Але тая, першая…

Яна, безумоўна, дарагая і незабыўная і для самога аўтара — як сведчанне першых яго крокаў у паэзіі, упэўненага выхаду да шырокай чытацкай аўдыторыі. Дарагая яна аўтару, думаецца, і тым, што адкрываецца прадмовай Анатоля Вялюгіна, у якой майстар благаслаўляе маладога паэта ў шлях, звяртаючы ўвагу на тое, што ў яго першай кнізе выявілася «неўтаймаванасць пачуцця, узрушанага патрэбамі і трывогамі часу».

Такая характарыстыка, дадзеная А. Вялюгіным, сведчыць пра яго праніклівасць: у лаканічнай форме схоплена вызначальнае ў паэзіі Міколы Мятліцкага, тое, што характарызуе не толькі пачатковы этап творчасці паэта, але і ўсю яе ў цэлым. Анатоль Вялюгін далёка глядзеў наперад, калі выказваў падтрымку маладому паэту ў прадмове з характэрнай назвай: «*Права на песню*».

Гэтае права на песню, на ўласны, не падобны да іншых паэтычны голас, М. Мятліцкі сцвердзіў паэтычнымі знаходкамі, вобразнай важкасцю слова, прасякнутага любоўю да роднай зямлі і людзей. А. Вялюгін з прыхільнасцю і добразычлівасцю да маладога аўтара пісаў: «Хлопец з хойніцкай вёскі, выпускнік універсітэта, Мікола Мятліцкі пачаў працаваць у паэзіі з імпэтам маладосці. Прыемна глядзець на юнацкую хаду, якая ў добры час набіраецца ўпэўненасці». І далей ён адзначаў, што паэт ідзе ў літаратуру са сваёй тэмай, адной з істотнейшых адзнак якой з'яўляецца духоўная паяднанасць з малой радзімай як крыніцай паэтычнага натхнення. «У яго свой паэтычны загон — палеткі Палесся, адкуль адкрываюцца прасторы Радзімы».

І ў гэтым таксама выявіліся мастакоўская чуйнасць і празорлівасць А. Вялюгіна. Так, тэма духоўнай сувязі з вытокамі, з палескай вёскай Бабчын стане для М. Мятліцкага галоўнай, лёсавызначальнай, анталагічнай — самай балючай, але адначасова і духоўна ачышчальнай, узвышаючай. Будзем памятаць, што менавіта ён, тонкі знаўца паэзіі і клапатлівы настаўнік паэтычнай моладзі Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін, першым заўважыў і адзначыў гэтую асаблівасць таленту М. Мятліцкага.

Паэту вельмі пашчасціла, што на пачатку творчага шляху яго прыкмеціў і падтрымаў такі славуты майстар. Маральная падтрымка, падбадзёрванне любога таленту ў час яго станаўлення — гэта вялікая і ўдзячная справа. Мне бачыцца сімвалічным тое, што гэтай падтрымкай адзін з лепшых паэтаў пакалення, якое вызначала аблічча нацыянальнай паэзіі, як бы перадаваў эстафету найбольш таленавітаму прадстаўніку пакалення, якое нясе «галоўную службу» (выраз М. Арочкі) сёння.

### ПРАВА НА ПЕСНЮ

Сапраўды, ужо з першых радкоў першага паэтычнага зборніка М. Мятліцкага звяртае на сябе ўвагу тое, што і асноўны адрасат, і галоўны натхняльнік паэта — радзіма. Ён тады яшчэ не ведаў, што гэтай повязі ў далейшым суджана будзе зазнаць надзвычай нялёгкія выпрабаванні на трываласць. Выпрабаванні, якія паэт перажыў годна.

*Кожны край песняра свайго мае.*
*То — ягоная радасць і боль.*
*Мой палескі бярозавы краю,*
*Падгалоскам хоць звацца*
*дазволь.*

Аўтар свядома выкарыстоўвае купалаўскую рэмінісцэнцыю, збліжаючы настрой і танальнасць свайго верша з пафасам паэтычнага прамаўлення класіка. Сёння даследчыкі могуць разглядаць гэтую пераклічку як праяву інтэртэкстуальнасці. Тады ж модны цяпер літаратуразнаўчы тэрмін яшчэ не быў распаўсюджаны. Але сама з'ява, безумоўна, існавала — як выяўленне духоўна-эстэтычнай пераемнасці між пакаленнямі, як сведчанне светапогляднага адзінства нацыянальнай паэзіі.

У вершах з першага зборніка радзіма прадстае не ў абстрагавана-абагульненым выглядзе, а ва ўсёй канкрэтыцы адзінкавага, індывідуальнага і непаўторнага. Ужо ў гэтай кнізе ўзнікае вобраз роднай вёскі паэта Бабчын, які пазней трывала ўвойдзе ў кола вобразаў-топасаў нацыянальнай культуры. Паколькі вядучай тэмай «Абеліска ў жыце» была патрыятычная тэма памяці пра вайну, вобраз Бабчына таксама паўстае ў яе святле. У вершы «Атава» ён выяўляецца праз аўтарскую этымалагізацыю назвы вёскі:

*За вёснамі маіх усіх гадоў*
*Ёсць вёска з горкім іменем удоў:*
*У збажыне,*
*У пошуме бяроз*
*Стуманены слязой*
*Жаночы лёс.*

З вобразам роднай вёскі ў гэтым вершы спалучаецца вобраз атавы, якая адрастае на пакошах і патравах. Несумненна, вобраз, як і многія іншыя ў паэзіі М. Мятліцкага, мае глыбока сімвалічнае значэнне. Гэта паэтычны сімвал пасляваеннага пакалення, да якога належыць і сам аўтар. Таго пакалення, якое прыходзіла ў свет у пяцідзясятыя, яшчэ не такія аддаленыя ад Вялікай Айчыннай вайны, гады (паэт нарадзіўся ў 1954-м). У той час наступствы жахлівай нягоды былі востра адчувальнымі. Яны былі навідавоку, выяўляліся праз нялёгкія лёсы тых жа бабчынскіх удоў.

Тут зноў хочацца вярнуцца да прадмовы А. Вялюгіна, які разважае: «Адно здзіўляе: аўтар нарадзіўся ў пяцьдзесят чацвёртым, а ў вершах столькі згадак пра вайну!» Аднак старэйшы паэт, які зведаў на сабе жорсткія выпрабаванні ваеннага часу, са зброяй у руках змагаючыся супраць ворагаў, прызнае права сказаць сваё слова пра вайну, пра гора, прынесенае ёй, і для маладзейшых, тых, хто нарадзіўся пасля ваеннага ліхалецця.

М. Мятліцкі пацвярджае такое права. У вершы, у якім зноў паўстаюць абрысы роднага паселішча («Вёска Бабчын»), паэт вымалёўвае колішняе бядотнае жыццё жанчын пасляваеннай пары так, быццам бачыў усё на свае вочы. «Не выдумка, што правілі жанчыны. / На іх руках смылелі мазалі: / Цягнулі плуг гурмой і гэтак чынна / З сявенькамі ступалі па раллі».

Душэўная спагада тым, на кім пакінула свой пякучы знак мінулая вайна, стала адным з вызначальных момантаў грамадзянскай пазіцыі паэта. Трывогі веку, пагрозы, якія працягваюць навісаць над светам, — усё тое, што больш і больш настойліва ўваходзіць у абсяг роздумаў паэта, праецыруецца ім на лёс асобнага чалавека. Менавіта чалавек, з яго надзённымі клопатамі і перажываннямі, знаходзіцца ў цэнтры ўвагі. «Душы збалелы ўскрык / Глыне азяблы вецер. / «Ваюе» франтавік / За дровы ў сельсавеце» — і такое падмечана ўважлівым поглядам паэта, нібыта і не сувымерная па сваіх маштабах з вялікімі падзеямі, што адбываюцца ў свеце. Але ў паэтычным свеце творцы ўсё змацавана духоўнай повяззю — вялікае з малым, вечнае з надзённым.

Мікола Мятліцкі — паэт, у творчасці якога грамадзянскасць вельмі арганічна спалучаецца з паэтызацыяй і ўзвышэннем чалавека і свету. У гэтым ён, несумненна, з'яўляецца годным прадаўжальнікам традыцый нацыянальнай паэзіі. Аўтару ёсць што сказаць свету, таму што, прамаўляючы ад свайго імя, выяўляючы сваё запаветнае, перажытае, выпакутаванае, ён адначасна прамаўляе і ад імя тых, з кім адчувае наймацнейшую кроўную повязь.

Традыцыйная для нашай паэзіі тэма ўзвышэння чалавека знаходзіць сваё ўвасабленне ў спалучанасці мастацкага і філасофскага падыходаў, у разгорнутасці свету лірычнага героя да маштабаў касмічнага. У выбудоўванні адметнага паэтычнага хранатопу Мятліцкі ідзе ўслед за класікамі айчыннай паэзіі — Купалам, Коласам, Багдановічам, Куляшовым, Танкам.

«Чалавек падымае неба» — так назваў М. Мятліцкі кнігу свайго выбранага, якая выйшла ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў 2012 годзе. Абазначыўшы тым самым невыпадковасць заўсёднай зацікаўленасці касмалагічнай тэмай, творца паспяхова прадаўжае развіццё традыцыйнай для нацыянальнай паэзіі натурфіласофскай рэфлексіі пра ўзаемадзеянне зямнога і касмічнага, якая на мяжы XX — XXI стагоддзяў, ва ўмовах сусветнай глабалізацыі і звязаных з ёю пагроз, набыла яшчэ больш актуальнае значэнне.

Трывога за Зямлю, за яе выжыванне прысутнічае ва ўсіх кнігах М. Мятліцкага. Галоўны жыццесцвярджальны імператыў яго паэтычнага паслання — «Планету маю зберагчы ад агню» — падмацоўваецца горкім досведам і папярэдніх пакаленняў, і самога паэта. «Чуйная памяць / Вечна журлівых хатынскіх званоў» — адзін з істотнейшых маральных аргументаў творцы ў барацьбе за мір.

### БЕЗ ЗЯМЛІ ПАД НАГАМІ

Чарнобыльская аварыя стала для Міколы Мятліцкага асабістай трагедыяй: родная вёска паэта апынулася ў зоне адчужэння. Да чарнобыльскай трагедыі звярталіся многія пісьменнікі. Можна з пэўнасцю сцвярджаць, што гэтая тэма стала ў беларускай літаратуры на рубяжы XX і XXI стагоддзяў адной з самых эмацыянальна перажываемых. Чарнобыльская тэма і светаадчуванне пасля катастрофы ў многім прадвызначылі драматызм і эмацыянальную напружанасць лірычнага выказвання М. Мятліцкага. Для яго, зрэшты, гэта не проста тэма, а згустак болю, тугі і смутку па самым дарагім. Радзіма для кожнага паэта — тое сакральнае месца на Зямлі, сувязь з якім надае яму жыццёвую трываласць, служыць духоўным апірышчам. Гэта не толькі крыніца паэтычнага натхнення, але і першапачатковая жыццёвая школа, у якой адбываецца фарміраванне асобы. Цяжка нават уявіць сабе, што азначае для творцы гвалтоўны разрыў такой жыццятворнай і духаўздымнай повязі.

*Неба вёскі маёй —*
*Не ўзіраюцца вочы,*
*І зоркі журліва глядзяцца*
*ў пустэчу.*
*Я пад зоркамі гэтымі*
*Веку*
*Прызначу сустрэчу.*

Якія неспазнаныя касмічныя абсягі прыадкрываюцца па-над знямелай вёскай! Касмічная пустэча, што разгортваецца не там, у недасяжным небе, а тут, на зямлі. Звыклы погляд з зямлі ўгору, на зоркі, змяняецца на супрацьлеглы: зоркі «журліва» ўзіраюцца ўніз. Перарвана повязь жыцця, спынены дыялог паміж чалавекам і сусветам? Не, гэтага не адбываецца. Вядзецца адкрыты дыялог з векам, з падступным лёсам, з мінулым і будучым. 1986 год стаў межавым у свядомасці паэта. Звяртаючыся да яго, М. Мятліцкі гаворыць: «Ты мне ахвяраваў / З радзімай развітанне: / Шаптанне мёртвых траў, / Крыніц атрутных ззянне». Недарэчным прадстае тое, што калыска жыцця — прырода — нясе ў сабе не жыццядайнасць, а атрутнае змярцвенне.

Сілы, якія могуць выйсці з-пад улады людскога розуму, з'яўляюцца пагрозай для будучыні ўсяго чалавецтва. У наш век над планетай навісае тэхнакратычная пагроза.

*Трывога б'е ў званы*
*Пустэльнага абшару:*
*Хто гэты шар зямны*
*Ўратуе ад пажару?!*

*Шаптанне мёртвых траў*
*І пошум труннай хвоі...*
*Ты кут мой адабраў —*
*Пакінь Зямлю жывою!*

Памяць паэта нястомна блукае там, дзе «безгаласае спіць сяло», дзе ўтравелі сляды родных і блізкіх людзей. Там, па яго прызнанні, засталася палова яго сэрца.

І ўсё ж надзея на тое, што жыццёвая сіла пераможа, падтрымлівае паэта. Перад яго ўнутраным зрокам паўстае час, калі радзіма ачысціцца, «калі распадзецца стронцый, / адпрэчыўшы злую бяду». Тады хтосьці з патомкаў упершыню ўвойдзе пад лясныя шаты:

*Думаць зямную думу*
*Будзе ён, ідучы*
*Колішняй зонай суму,*
*Прывідам злой начы.*

Гэты будучы жыхар Беларусі атрымае ў спадчыну зямлю, да якой ён зможа ставіцца даверліва, як некалі продкі. Паэт верыць: людзі будучага ўлічаць памылкі мінулага, зямля захавае красу і жыццядайнасць.

І ў добрую долю нашых наступнікаў сапраўды верыцца. Ёсць і грунтоўныя спадзяванні на тое, што яны не страцяць нічога з маральных і эстэтычных каштоўнасцей нашай паэзіі, якая прадстаўляе народны духоўны досвед.

Паэтычнае слова Міколы Мятліцкага — неад'емная частка багатага свету нацыянальнай паэзіі. Галоўная адметнасць яго слова, мне думаецца, у шчырасці і адкрытасці. У тым, што яно прамоўлена натхнёна, усхвалявана і ўзвышана, заўсёды скіравана да тых, хто пачуе і зразумее яго, прыме як сваё, сугучнае ўласным думкам і адчуванням.

Гэтым водгуллем і жывая паэзія.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**, фота з архіва «ЛіМа»

# Слуцкі пояс: новае жыццё



Фота Кастуся Дробава

**У працоўным кабінеце дырэктара Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі, кандыдата мастацтвазнаўства Барыса Лазукі на паліцы сярод кніг цяпер можна пабачыць і адмысловую статуэтку «Залаты фаліянт». Гэтую ўзнагароду ў спецыяльнай намінацыі «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны» Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» Барыс Андрэевіч сёлета атрымаў у тым ліку за новае ўнікальнае даследаванне. Яго кніга «Слуцкія паясы. Адраджэнне традыцый» напрыканцы мінулага года пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь» і была прэзентаваная чытачам падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Думаецца, варта яшчэ раз звярнуць увагу на гэты праект. Але ўласна кнігай гаворка, натуральна, не абмежавалася. Пра значнасці і адметнасці адраджэння традыцыі вырабу слуцкіх паясоў, магчымасці выкарыстання іх у сучасным жыцці, а таксама працу па далейшым аднаўленні беларускіх рамёстваў — гутарка з Барысам Лазукам.**

## «ШЛЮБ» З КУЛЬТУРАЙ БЕЛАРУСАЎ

— Ідэя стварэння такой кнігі з'явілася разам з пачаткам рэалізацыі дзяржаўнай праграмы, хоць збор і сістэматызацыя матэрыялаў вяліся задоўга да арганізацыі працы па адраджэнні тэхналогіі вырабу, традыцыі вытворчасці слуцкіх паясоў. У мяне не так даўно запыталіся, калі я сам пачаў цікавіцца тэмай слуцкіх паясоў. Так і не змог дакладна адказаць, бо ўсё сваё свядомае жыццё ў мастацтвазнаўстве вывучаю культуру Беларусі, наша мастацтва XVII — XVIII стагоддзя, матэрыяльную культуру, выяўленчае, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, а ўсё гэта непарыўна звязана з тэмай слуцкіх паясоў. Таму пэўны момант, мяжу амаль немагчыма вызначыць. Аднойчы я нават сказаў, што «шлюб» гэты быў узяты гадоў 30 таму і толькі цяпер нарадзілася першае дзіця, а можа, адразу ўнук. З'яўленню кнігі, безумоўна, паспрыяла прыняцце дзяржаўнай праграмы «Слуцкія паясы» на 2012 — 2015 гады. Хоць у асяроддзі музейшчыкаў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, культуролагаў думкі, ідэя і веды пра слуцкія паясы і іншыя вартыя рысы нашай нацыянальнай культуры, безумоўна, існавалі, але прыступіць да рэалізацыі вялікага праекта было справай даволі складанай. Магчыма, наша грамадства ў належнай ступені не было гатова да ўспрымання гэтага матэрыялу. Магчыма, і цяпер яно не гатова.

## СТАРЫ ПРАДМЕТ У СУЧАСНЫМ ЖЫЦЦІ

— Нават назва кнігі не выпадковая. Гэта не проста «Слуцкія паясы», адмысловы акцэнт робіцца на тым, што выданне прысвечана і тэме адраджэння традыцый. Але тут не ўсё так проста. Часам у размовах з зацікаўленымі асобамі, нават апанентамі, я чую вось якое меркаванне: выдатна, што прынята дзяржаўная праграма, што праводзіцца вялікая праца па адраджэнні вытворчасці слуцкіх паясоў, але жыццё гэтага прадмета ў побыце як элемента кантушовага строю шляхецкага касцюма скончылася ў пачатку XIX стагоддзя. І сапраўды, у многім занепад кантушовага строю звязаны з тым, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай ён стаў успрымацца як апазіцыя да афіцыйных улад царскай Расіі, паколькі беларуская шляхта, апрануўшыся ў такія строі і ўпрыгожыўшы сябе паясамі, выступала супраць афіцыйнай палітыкі Расійскай імперыі на беларускіх землях. Сёння ніхто не носіць шляхецкіх строяў, таму ўзнікае пытанне: навошта адраджаць тэхналогію вытворчасці слуцкіх паясоў?

Але ж мы разумеем, што не ўсё ў гэтым свеце мае практычную ролю, не ўсё можа прынесці матэрыяльны прыбытак. Ёсць рэчы, звязаныя з пытаннямі адраджэння традыцый, нашага ведання культурнай спадчыны, на якіх выхоўваецца моладзь, да гэтых каштоўнасцей далучаюцца людзі старэйшага пакалення. Канечне, з таго, што мы адраджаем паясы, любуемся копіямі, якія ўжо выконваюць, не можам зрабіць выснову, што цяпер у крамах з'явяцца больш танныя тканіны, больш якасны посуд, больш прывабныя прадукты, новыя машыны...

Але тое, што адукаваны, разумны чалавек, які ведае нашу гісторыю, будзе ашчадна, на якасна вышэйшым узроўні ставіцца да сваёй справы нават у зусім іншай галіне, я перакананы на ўсе 100 і нават 200 працэнтаў. Гэты аспект датычыць не адных паясоў ці беларускага мастацтва, гаворка ідзе пра духоўнае выхаванне нацыі, асаблівасці фарміравання каштоўнасных арыенціраў асобы.

> **«…не ўсё ў гэтым свеце мае практычную ролю, не ўсё можа прынесці матэрыяльны прыбытак. Ёсць рэчы, звязаныя з пытаннямі адраджэння традыцый, нашага ведання культурнай спадчыны, на якіх выхоўваецца моладзь, да гэтых каштоўнасцей далучаюцца людзі старэйшага пакалення.**

У гэтай кнізе не толькі выкладзена гісторыя слуцкіх паясоў, мануфактуры, гісторыя кантушовага строю, не толькі вядзецца размова пра арганізацыю вытворчасці слуцкіх паясоў, ролю Радзівілаў у гэтай справе. Робіцца акцэнт на тым, што гэтае мастацтва, даволі вузкае і спецыфічнае, якое сфарміравала такую ўнікальную з'яву ў сусветнай культуры, як слуцкія паясы, мае права на жыццё сёння. Адсюль і гэтыя словы — «адраджэнне традыцый».

## …І ДЫВАНОК ДЛЯ МЫШКІ

— Разам з матэрыялам гісторыка-тэарэтычнага характару я прапаную чытачам магчымасць убачыць варыянты, як можна ўвесці ў сучаснае жыццё мастацтва слуцкіх паясоў, як яно можа існаваць сёння. Прыклад — нататнік у палатнянай вокладцы, велікоднае яйка, жаночыя шалі, нават дыванкі для камп'ютарнай мышы, упрыгожаныя ўзорамі з матывамі слуцкага пояса. Мы можам акунуцца ў зусім новую сферу жыцця слуцкіх паясоў, дзе ёсць месца інтарэсам жанчын, якія захапляюцца вышыўкай і ткацтвам, вернікаў, якія могуць любавацца ўзорамі слуцкіх паясоў на, здавалася б, вельмі далёкай ад свецкай галіны рэчы — велікодных яйках, моладзі, якая можа карыстацца дыванкамі, насіць шалікі, шапкі, іншую вопратку, аздобленую элементамі ўзору, характэрнага для слуцкіх паясоў. Сфера сучаснага выкарыстання вобраза, арнаментацыі слуцкага пояса надзвычай шырокая, жыццё можа падказваць самыя разнастайныя варыянты і спосабы. Іх безліч.

> **«Мы можам акунуцца ў зусім новую сферу жыцця слуцкіх паясоў, дзе ёсць месца інтарэсам жанчын, якія захапляюцца вышыўкай і ткацтвам, вернікаў, якія могуць любавацца ўзорамі слуцкіх паясоў на, здавалася б, вельмі далёкай ад свецкай галіны рэчы — велікодных яйках, моладзі, якая можа карыстацца дыванкамі, насіць шалікі, шапкі, іншую вопратку, аздобленую элементамі ўзору, характэрнага для слуцкіх паясоў.**

## ПОЯС ЯК ТЭКСТ

— У даследаванні я вяду размову пра яшчэ адну праблему, цалкам навуковую і тэарэтычную. Справа ў тым, што слуцкія паясы як з'ява культуры, аб'ект, помнік падобныя да карціны, скульптуры — гэта твор мастацтва, які мы можам разглядаць як сукупнасць знакаў, знакавую сістэму, што існуе ў дадзеных фармальных, вобразных, стылёвых параметрах. Семіятычная праблема выходзіць на пытанне, звязанае з перакладам гэтай сістэмы з адных умоў, у якіх жыве твор мастацтва, у іншыя ўмовы і іншую сістэму. Рэальнае жыццё нам дае мноства такіх прыкладаў. Так, літаратурны твор можа быць пераатвораны ў фільм, мюзікл, спектакль, мультфільм, на яго аснове можна стварыць серыю ілюстрацый. Звыклая з'ява! Але ці заўсёды мы, маючы новы варыянт прачытання казкі ці рамана, задаволены параметрамі нашага яго ўспрымання ў новай сістэме? Не. Аднак часам праз новую інтэрпрэтацыю нам могуць адкрыцца раней не бачныя грані.

У выпадку са слуцкімі паясамі мы вядзём размову пра аб'ект мастацтва як тэкст, дзе закадзіравана, зашыфравана пэўная інфармацыя. А ці можам мы адэкватна перакласці мастацкі тэкст з аднаго матэрыяльнага носьбіта на другі? Не зусім і не заўсёды. Таму пры пераносе ўзору ці яго элементаў важна захаваць сувязь, каб пры разглядзе новага прадмета, упрыгожанага выявамі з матывамі слуцкіх паясоў, не ўзнікала пытанняў, што гэта — проста нейкія кветачкі і рысачкі ці элемент узору слуцкага пояса. Пры выкарыстанні такіх элементаў, лічу, павінен існаваць і бар'ер маральнасці.

Але гэта адзін аспект, іншая справа — пытанне мастацкасці. Тут у аснове ляжыць не маральнасць, ідэйнасць, цанімасць духоўных каштоўнасцей, а момант любавання, далучэння да прыгожага. Важна, каб новыя прадметы з элементамі слуцкіх паясоў былі проста прыгожымі.

## ПРАЦЯГ БУДЗЕ!

— У маіх планах і марах — уключыць слуцкія паясы ў праграму адукацыйных курсаў, спецкурсаў, якія выкладаліся б на пэўных профільных спецыяльнасцях Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Пэўныя крокі ў гэтым кірунку ўжо зробленыя. Значна дапамагае дзяржаўная праграма «Слуцкія паясы», дзе існуюць нават асобныя пункты, прысвечаныя гэтаму аспекту. Са слуцкіх паясоў ужо ў XVIII стагоддзі рабілі царкоўную вопратку. І цяпер я планую прапанаваць праваслаўнай царкве, каталіцкаму касцёлу выкарыстоўваць іх: з наноў вытканых слуцкіх паясоў можна шыць арнаты, царкоўныя рызы. Важна, што гэтыя ўзоры будуць бачыць вернікі і асацыяваць іх са сферай боскага, духоўнага.

Слуцкія паясы — вельмі шчаслівы выпадак. Я займаюся імі як працай і яшчэ таму, што справа гэта мае дзяржаўную падтрымку. А што наперадзе? Самае блізкае, што мне хацелася б і да чаго мы маглі б падступіцца, — наша знакамітае налібоцка-ўрэцкае шкло. Калі займуся, крытыка ў мой бок будзе самая мінімальная. Бо слуцкія паясы — гэта тое, што знікла і засталося толькі ў помніках, а посуд, люстэркі актыўна выкарыстоўваюцца і цяпер. Больш за тое, тэхналогію вытворчасці паясоў мы адрадзілі фактычна з нуля, трэба было аднаўляць, рэканструяваць, дадумваць амаль страчанае. Са шклом у нас такіх праблем няма. Нават вытворчасць захавалася.

Спадзяюся, што слуцкія паясы адкрыюць іншыя прасторы. Можна згадаць наш знакаміты свержанеўскі фаянс, шыкоўныя вішнёўскія вырабы з металу — паркавую мэблю для садоў, паркаў, балконныя рашоткі. У нас ёсць традыцыі, узоры. Адрадзіць іх і даць магчымасць сучасніку карыстацца ўнікальнымі прадметамі — ці не шчасце?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Унікальны праект*

# Прывітанне чорнаму квадрату!

**I першую, і апошнюю старонку вокладкі гэтай незвычайнай кнігі ўпрыгожвае чорны квадрат, спачатку амаль цалкам запоўнены літарамі, а ў канцы толькі з адной «я», што мае працягам шматкроп'е (тры маленькія чорныя квадрацікі). У адпаведнасці з добрымі еўрапейскімі традыцыямі чытач адразу бачыць два прозвішчы — аўтара і мастака. Пра візуальна-паэтычны праект «Акры» — размова з паэтам Арцёмам Кавалеўскім, выкладчыкам кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, і дызайнерам Русланам Найдзенам, выкладчыкам кафедры графічнага дызайну БДАМ.**




**— Дык што насамрэч на вокладцы?**

**Арцём Кавалеўскі**: Кожны адразу павінен зразумець: гэта не класічная кніжка, прызначаная толькі для чытання. Гэта кніжка-гульня, кніжка-забаўлянка, кніжка-красворд, кніжка-рэбус, калі хочаце, інтрыга, загадка якой раскрываецца не адразу, але гэта і прываблівае.

**Руслан Найдзен**: У чорным квадраце першай яе старонкі — алфавіт, за выключэннем літар, якія складаюць назву кнігі. Яны перабраліся на тытул выдання і адразу тлумачаць чытачу, што акры — не адзінка вымярэння і да т. п., а словаўтварэнне па аналогіі з Кукрыніксамі. А пасля выдання праекта высветлілася: у гэтым годзе спаўняецца сто гадоў знакамітаму квадрату Малевіча. І гэта ўспамін-цытата. Не спецыяльна да юбілею, проста так атрымалася!

**— Каму належыць ідэя зрабіць кніжку, на кожнай старонцы якой сэнс паэтычнага радка і яго мастацкае ўвасабленне — раўназначныя па каштоўнасці?**

**Арцём Кавалеўскі**: Памятаеце, у Пастарнака: «И чем случайней, тем вернее слагаются стихи навзрыд»? Тое самае было і з нашым праектам. Тут літаральна некалькі новых вершаў. Астатнія — з маіх першай і другой кніжак. Я ўжо ведаў манеру, у якой працуе Руслан, таму і вырашыў прапанаваць яму свае мінімалісцкія творы.

**Руслан Найдзен**: Шчыра кажучы, «Акры» — першая друкаваная рэч, дзе на вокладцы стаіць маё прозвішча. Гэта было вырашана адразу. І з пункту гледжання дызайну, калі зняць радок з подпісам, абрынецца ўся кампазіцыя старонкі. А намаляваная літара «з» — спасылка на стан розуму «дзэн».

**— Як ішла праца над кнігай?**

**Руслан Найдзен**: Вершы адбіраліся і па афарыстычнасці думкі, і па мінімалісцкай форме. Лаканізм выказвання быў вызначальным і прынцыповым. Асаблівасцю гэтага праекта з'яўляецца мэтанакіраванае выкарыстанне візуальных метафар, якія пераўтвараюць традыцыйны спосаб чытання тэксту ў рэжыме «мона» ва ўчытванне ў рэжыме «стэрэа».

**— А ці ведалі вы, Арцём, як яно павінна выглядаць?**

**Арцём Кавалеўскі**: Шчыра кажучы, я мог стаць дызайнерам. І вельмі ўдзячны Руслану, што яму было цікава, як я прарэагую на аздабленне. Не было момантаў, якія б не задавальнялі альбо расчароўвалі. Сама праца нараджала непаўторныя хвіліны інтэрпрэтацыі маіх вершаў. Мастак нешта дадае ў гэтыя лаканічныя формы, па-іншаму іх расчытвае і разумее. Паступова мы ўсвядомілі, што робім унікальны візуальна-паэтычны праект. Калі не лічыць, напрыклад, Сімяона Полацкага, які аздабляў вершы ў форме сэрца, зоркі, альбо рукапісных тэкстаў футурыстаў. Натхняліся і творамі Андрэя Вазнясенскага. Але ў нас гэта крыху іншае. Тут тэкст — першаснова, а кожны штрых, створаны мастаком, дадае напластаванне сэнсаў.

**— Ці быў пэўны парадак пабудовы матэрыялу?**

**Руслан Найдзен**: Логіка пабудовы: ад самых кароткіх рэчаў — і па ўзрастанні. Кропкай адліку можна лічыць восень 2011-га. Вызначальны момант і вокладкі, і дызайну, і стылістыкі — алфавіт. Першы верш, з якога пачалося, — «Гамер». У мяне адразу ж нарадзілася яго бачанне. Вядома, здараецца, іншым разам і некалькі вечароў трэба хадзіць, пакутаваць, пакуль з'явіцца ідэя. А тут — вокамгненна. Арцём казаў: мы не ведаем, хто быў першы ў літаратурным жыцці Старажытнай Грэцыі. Важна, што Гамер застаўся. І я адчуў: слова «Гамер» павінна быць набрана такім кеглем, каб яно не змясцілася на старонцы. І яшчэ зразумеў, што гэта не ілюстрацыя,




а візуалізацыя ідэі: адначасова і малюнак, і тэкст. Ужо потым, дзеля жарту, спытаў: «А хто ж адзінаццаты?» І Арцём адказаў: «Я». Для тых, у каго пачуццё гумару наяўнае, афармленне будзе зразумелым (і памер зноскі, і яе тэкст).

**Арцём Кавалеўскі**: Відаць, гэта была юнацкая правакацыя. А мой сябра-гісторык падвёў цэлую філасофію пад гэты тэкст. І калі ў мяне пытаюць, што ж я гэтым вершам хацеў сказаць, адказваю: Гамер задаў вектар еўрапейскай культуры, але да яго ж таксама былі песняры.

**— Мне падалося, галоўнай стала тэма горада. «Травень запханы ў трамвай», «Вадасцёкі…», «Крама. Чарга…»**

**Арцём Кавалеўскі**: Я нарадзіўся і вырас у горадзе, але ў кнізе прысутнічае і тэма кахання, і шмат іншых. Лаканізм выразных сродкаў пакідае прастору чытацкім асацыяцыям. Верш «Крама. Чарга. Доўгая. Па нешта» я напісаў, здаецца, на трэцім курсе. Ён ніяк не асацыяваўся з савецкай чаргой, хаця яе помню. А Арнольд Макмілін, прафесар, брытанскі філолаг-славіст, у сваім артыкуле пра маю паэзію гэты верш цытаваў з такім каментарыем: аўтар прыгадвае савецкія часы, калі быў татальны дэфіцыт… Я ж хацеў найперш перадаць рубленасць чаргі, дарэчы, у мове нават яшчэ няма слова для той палкі, якой аддзяляюць у супермаркетах пакупкі наступнага кліента. А Руслан з дапамогай памяншэння кегля паказаў рух пры ўсёй манатоннасці працэсу.




У гэтым праекце інтрыга прысутнічае. Яе можна разглядаць бясконца. Нават мы, аўтары, знаходзілі ў гатовай кніжцы прыгоды, якіх дагэтуль самі не заўважалі. Яны спрыяюць як візуальнаму, так і сэнсаваму ўспрыманню. Памятаю, у дзяцінстве мог сесці і проста разглядаць малюнкі ў кніжках. «Арганы вадасцёкаў — органы горада. Жылы жыцця гмахаў». Меў на ўвазе, што лезу да дзяўчыны па гэтай трубе. Ідэя з палосачкамі нарадзілася, але не было ландшафту, Руслан правёў лінію гарызонту — і адразу яны перасталі вісець у паветры.

**Руслан Найдзен**: Сучасны горад імкнецца ўверх. А тут рытм я збіў — паклаў адзін дамок, гэткая «хрушчоўка» атрымалася. Няхай чытач сам пакапаецца. Вось у вершы «Красавік пачынаецца», пабудаваным на люстраным адбітку тэксту, перададзены рух машын, і гэтае адлюстраванне паступова высыхае — як вада на красавіцкім асфальце. Апошні радок — ужо без адбітку. Каб гэты візуальны эфект не выглядаў паліграфічным бракам, у першай страфе адбіткі «рухаюцца».

Ці вось «Вясковае, летняе…» — толькі беларуская мова магла так парадаваць.

**— Адна са старонак чорна-белага праекта — чырвоная.**

**Арцём Кавалеўскі**: «Брудны гарадскі трыпціх». Цяпер я амаль не пішу такіх кароткіх вершаў. А тады мне хацелася эксперыментаваць. І я паспрабаваў перадаць тэму мегаполіса, дзе і брук, і бруд, і бр-р-р. Руслан сказаў: гэта рэвалюцыйны верш, а рэвалюцыі бываюць крывавымі. Калі ўгледзецца, дробным шрыфтам пазначана група крыві — адмоўны рэзус-фактар, чацвёртая група — самая рэдкая. І нумар старонкі — таксама чырвоным.

**Руслан Найдзен:** І яшчэ адна асацыяцыя: «Крывавая нядзеля». Тым больш, трынаццатая старонка з чорным снегам. А папярэдняя, дванаццатая, — варажба з люстэркам. Чаму люстра? Спасылка на Лету, раку бяспамяцтва, якая перакручвае наша ўяўленне рэчаіснасці — у іншы свет. Можа, мы і загуляліся…

**— І для вас тут былі сюрпрызы?**

**Руслан Найдзен**: Так. Напрыклад, 29-я старонка з-за ілюстрацыі павінна была ісці без лічбы. І калі на квітку, які выступаў у якасці ілюстрацыі, менавіта на месцы нумара старонкі аказалася адпаведная лічба, гэта нас ўразіла. Здарова! Мы ж маглі гэты кавалак проста адрэзаць. Не менш здзівіліся, калі



разглядалі раздрукаваныя старонкі на прасвет. У адным месцы візуальны эфект нечакана ўразіў…

**Арцём Кавалеўскі**: Самалётны квіток пакінуў на памяць. Ляцеў у Кальмар са Стакгольма побач з дзяўчынкай-шведкай. Яна і натхніла мяне на верш. Квіток з той паперы, якая паступова сціраецца, тэкст на ёй амаль ужо знік. Але гэта дакумент, што сведчыць: сапраўды так было.

Я нават цыдулкі захоўваю. У прыватным архіве і чарнавікі, і розныя накіды, і квіткі — тое, што нагадвае пра мясціны, дзе бываў, пра нейкага чалавека, які ўразіў. Магу збіраць камяні — пра кожны памятаю, дзе знайшоў. Штогод зрываю доўгі прут вярбы, абрываю лісткі і скручваю кола — старэю я, і сведкі таму — гэтыя колцы.

**— Якія прыемныя моманты звязаны з кнігай?**

**Арцём Кавалеўскі** : Шчаслівае супадзенне думак. Часта мастак афармляе кніжку, а літаратар бачыць, калі ўжо немагчыма штосьці выправіць. У нас была згарманізаваная праца, цалкам прыемная, проста часам, як дзеці, радаваліся, калі з'яўлялася нейкая ідэя. Мы два гады чакалі выхаду кнігі. Калі б нам прапанавалі: заўтра яе выдадзім, — то напружыліся і зрабілі б. Але я вельмі ўдзячны лёсу, што яна адляжалася.

Я доўга нікому не паказваў кнігу. Лічу, што толькі графаманы носяцца са сваімі творамі. А яшчэ, можа, таму, што калі пачынаеш паказваць блізкім людзям, трэба ўсё тлумачыць. Паказаў кніжку некаторым дарослым, але яны яе прагортваюць — і адкладаюць. Шкада, што могуць праглядзець… і не разгледзець. Гэта ж не проста зборнік. Кніжка не дзіцячая, але нешта дзіцячае ў ёй прысутнічае.

**— Элемент гульні?**

**Арцём Кавалеўскі**: Мае студэнты казалі, што верш «Каляды», аформлены адмысловым чынам, можа выступаць у якасці айчыннай татуіроўкі.

**Руслан Найдзен**: Тым не менш выданне можа быць дапаможнікам для студэнта-дызайнера. Калі робіш такія рэчы, заўсёды падтрымліваеш форму.

**Анастасія СЯМЁНАВА**

*Ацаніць праект Арцёма Кавалеўскага і Руслана Найдзена — старонкі, сабраныя пад адной вокладкай і ў ролі асобных твораў, — можна будзе на выстаўцы, што адкрыецца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў красавіку.*



# За кулисами судьбы

Чувствовать за спиной шёпот, осуждающий или восхищённый, быть всегда на виду: на сцене, экране и на первой полосе — каково это? Кумиры, о которых сказано, казалось бы, всё, предстают в своих биографиях в ином свете, лишённом блеска софитов и грома аплодисментов. Они такие же, как все люди, со своими слабостями, недостатками, сумевшие стойко пережить трудности и добиться успеха. Что для них главное? Понимание.

## НЕИСТРЕБИМАЯ

Сценический образ вечно молодой и эксцентричной леди принадлежит сильной, познавшей боль и разочарования женщине. Она смогла, будто феникс, подняться из пепла, пережить войну, забвение зрителей, предательство любимых и доказать всем, что её имя достойно восхищения. Биография Людмилы Гурченко вышла в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест».

Тёплым осенним днём 1935 года в Харькове родилась девочка. Назвали её, как ни удивительно, именем героини американского фильма, разумеется, адаптированным под советскую действительность, — Люся. Первые годы своей жизни будущая великая артистка прожила в маленькой подвальной комнатке в Мордвиновском переулке. Но это и не важно. Все, кто приходил сюда в гости, даже в будний день попадали на праздник. Отец доставал баян, а дочка исполняла песни и плясала. Не удивительно, что Людмила Гурченко говорила: я научилась петь раньше, чем говорить.

Биография открывается рассказом о её родителях, а потом уходит в прошлое — к бабушке и дедушке. Самым дорогим в жизни актрисы всегда была семья, которая её воспитала, а потом, когда от неё отвернулись все — друзья, возлюбленные, — всегда поддерживала.

Мать Люси, Елена, происходила из дворян, а отец, Марк, — из батраков. Несмотря на различия, причём не только в происхождении, но и в характерах, они прожили вместе много лет.

Твёрдостью натуры, которую унаследовала внучка, отличалась её бабушка по материнской линии Татьяна Симонова. Столбовая дворянка, по-пуритански строгая и довольно жёсткая. Впрочем, такой её сделала судьба: ссылка мужа в Сибирь, его измена, разорение и постоянный страх за своих детей. Она никогда не опускала руки и выживала своими силами. Такой же стойкой и непобедимой через годы станет и Людмила Гурченко, вооружившись девизом: «Хочешь выжить — умей терпеть».

От отца, Марка Гавриловича, Люся получила неугасаемую жизнерадостность, умение всегда оказываться в центре внимания и огромную любовь к музыке. В своих воспоминаниях она говорила о том, что папа, будто фейерверк, ворвался в скучную, серую, по-казарменному строгую мамину жизнь. Биография очень образно и живо повествует о том, как познакомились родители Людмилы Гурченко: девятиклассница Елена и синеглазый, темноволосый — словом, очаровательный, — и уже довольно взрослый баянист.

Не случайно отец Людмилы Гурченко в книге будто неотделим от дочери, всегда следует за ней, как ангел-хранитель, и оберегает от всех бед. Она, типичная «папина дочка», обожала его!

На страницах много его фраз, причём без литературных правок — на простонародной, полной украинизмов речи. Но это




придаёт его словам, забавным и мудрым, особенное обаяние.

Представьте себе павлиний хвост, только не из перьев, а из бисера и переливающихся камней. Вот такое платье он однажды подарил дочке. Людмила Гурченко запомнила его на всю жизнь и постоянно искала похожий фасон. Ведь папин «сувенир» пришлось продать: семье катастрофически не хватало денег.

Счастливое детство Людмилы Гурченко закончилось в шесть с половиной лет. Отдельные главы книги посвящены войне. Период страха, голода и боли, когда смерть подстерегала за каждым углом, послужил для девочки бесценным уроком. Она закалила характер. А ещё открыла в себе талант. Да, как ни удивительно, именно на войне!

Первой, кто предрёк ей актёрское будущее, стала соседка, в доме которой Люся жила вместе с мамой. Тетя Валя, костюмерша в театре, стала для девочки квинтэссенцией настоящей женственности…

Потом Люся пела перед немцами, чтобы получить заветную кастрюльку с супом. Фрицы даже прозвали её маленькой «Лючией шаушпиллер». А ещё ходила на прорубь, с двумя огромными вёдрами. Но чтобы добраться до воды, нужно было простоять внушительную очередь и научиться, если нужно, отталкивать кочергой всплывающие трупы. Потом, во ВГИКе, ей сложно давались этюды, где нужно было изображать страх перед обычной мышкой. Ведь девушка уже ничего не боялась!

Людмила Гурченко отправилась поступать во ВГИК сразу же после школы. Одно слово — Москва! — вызывало трепет и восторг. Из вагона девушка вышла с твёрдой уверенностью, что у неё всё получится. Правда, умудрилась забыть там сумочку с деньгами и документами. Зато успела очаровать московского юношу. Да, Людмила Гурченко владела мастерством обольщения! Впрочем, она и сама легко и беззаветно влюблялась… Только с избранниками ей не везло. Мужчины для неё никогда не были поддержкой и крепким плечом. Почему? В этом легко убедиться, проследив за развитием отношений с супругами. Читатели книги смогут узнать, почему браки Людмилы Гурченко, счастливые, полные любви и понимания, вскоре разваливались, словно карточный домик.

Биография подробно повествует о её первых ролях, отношениях с коллегами, неожиданном успехе «Карнавальной ночи» и внезапном «падении» едва успевшей загореться звезды. Но она пережила эпоху забвения, когда её травили в прессе, поджидали на улице, чтобы чуть ли не забросать камнями, писали гневные письма, но самое ужасное — не приглашали на пробы. Её любовь к кино не угасла после всех неприятностей и обид. Жизнь для неё была постоянным движением, она никогда не сдавалась, умела «выплывать», тихо, незаметно, но уверенно выходила на берег и шла вперёд.

История Людмилы Гурченко может стать хорошим примером для всех, кто оказался один на пороге безысходности. Пусть её слова станут лекарством для души: «Пожалуйста, верьте в себя, любите, ничего не бойтесь, будьте свободными, рисуйте… И главное, конечно, любите друг друга».

## ПОЮЩИЙ С КОЛЫБЕЛИ

Книга «Я был отчаянно провинциален…», вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», написана рукой Фёдора Шаляпина. Великий артист, уставший от нелепых сплетен и небылиц, взялся за перо, поведав читателям правдивую историю своей жизни.

Стиль книги напоминает удивительную смесь реализма и искренности Льва Толстого с документальной образностью Владимира Гиляровского. Автобиография богата колоритными диалогами, масштабными описаниями и тонко подмеченными мелочами. Но главное — она искренняя… Правда, стремление автора рассказать обо всём и сразу усложняет восприятие текста.

«Я написал эти, может быть, скучные страницы для того, чтоб люди, читая их в это трудное время угнетения духа и тяжких сомнений в силе своей, подумали над жизнью русского человека, который, хотя и с великим трудом, но выплыл, выплыл с грязного дна жизни на поверхность её…» — обращается к читателям автор.

С горькой иронией артист говорил о том, что слухи о его невыносимом характере, пьянстве, жестокости и болезненной любви к деньгам подхватывались прессой и проникали за пределы театра, в публику. Людям нравится разоблачать вчерашних кумиров, самоутверждаться, чувствуя свою власть над теми, кто смог возвыситься над толпой. Да, его любили и возносили до небес, но порой легенды о Фёдоре Шаляпине поражали своей абсурдностью. Фёдор Шаляпин не оправдывается, а наоборот, через свои воспоминания как бы извиняется: «Что делать? Я — человек и чувствую боль, как все».

В автобиографии он стремится напомнить читателям о вечной библейской истине: относитесь друг к другу с пониманием и уважением.




Благодаря книге великий артист, покоривший публику божественной красотой своего голоса, будто спускается к зрителям, протягивает им руку и говорит: смотрите, я такой же, как вы, грешный, простой человек! Его путь к успеху был не случайным совпадением звёзд на небе, а результатом тяжёлой и упорной работы.

В книге Фёдор Шаляпин вспоминает себя с пяти лет. Певец, который выступал на сценах всех известных театров мира, срывая аплодисменты императоров и королей, родился в бедной крестьянской семье, познал голод и унижение, но тянулся к прекрасному. Театр так поразил юношу, что «свёл его с ума, сделал почти невменяемым». Правда, отец был не в восторге: «В дворники надо идти, скважина, в дворники, а не в театр! Дворником надо быть, и будет у тебя кусок хлеба, скотина! А что в театре хорошего?»

Многие дети, боясь перечить родителям, выбирают свой путь по их указу, лишаясь свободы и превращаясь в рабов чьих-то амбиций. Но это не про Фёдора Шаляпина!

Автобиография артиста погружает в атмосферу душевных переживаний сильного, мужественного человека, который преодолел все препятствия и не похоронил свой талант. Интересны моменты, где Федор Шаляпин рассказывает о своих встречах с известнейшими людьми его эпохи: Максимом Горьким, Львом Толстым, Владимиром Лениным, Гербертом Уэллсом, Бернардом Шоу…

Книга написана от сердца, это чувствуется с первых страниц. Автору хочется верить, ведь ему и правда не нужно было прятать свои недостатки и оправдываться, он просто хотел понимания…

## ДВАДЦАТЬ ЧЕТЫРЕ СУДЬБЫ

Книга Игоря Оболенского «Четыре друга эпохи. Мемуары на фоне столетия», вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», может стать хорошей альтернативой энциклопедии по истории или, более того, — путеводителю по жизни.

Кто же такой Игорь Оболенский? Неутомимый исследователь судеб, российский журналист и писатель. Он стал автором более ста интервью с самыми яркими деятелями мировой культуры — от Александра Солженицына и Никиты Михалкова до Катрин Денёв и Софи Лорен. Истории этих встреч отражены в его книгах. В их числе — издание «Четыре друга эпохи. Мемуары на фоне столетия». Почему автор называет своё произведение необычным? Всё просто. История, в отличие от учебников и научных трудов, раскрывается здесь через воспоминания знаменитых людей, ставших символами своего времени. Они говорят экспрессивно, с лёгкой иронией, присущей всем талантливым личностям, но всегда — искренне. Кто же доверил автору свои сокровенные тайны и смелые




мысли? Невозможно поверить, но среди двадцати четырёх уникальных и абсолютно разных героев книги — актер Армен Джигарханян, лётчик Алексей Маресьев, режиссёр Юрий Любимов, писатель Чингиз Айтматов, певец Марк Бернес и даже Маршал Советского Союза Дмитрий Язов. Благодаря очеркам Игоря Оболенского читатели узнают о том, что было засекречено цензурой, познакомятся со своими кумирами почти так же близко, как в личной беседе, получат незаменимые уроки жизни и заодно выучат историю XX века.

**Мария ВОЙТИК**

## Адначаснікі



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Настаўнік і сябра

Мне было амаль дзевятнаццаць год, я працаваў транспарціроўшчыкам на полацкім заводзе шкловалакна, пісаў вершы на рускай мове, з сябрамі Сашам Канавалавым і Валодзем Варпаховічам нават пару разоў наведваў літаб'яднанне «Наддзвінне» пры полацкай газеце «Сцяг камунізму».

А ў суседнім Наваполацку стала выходзіць газета «Химик». Наваполацк вабіў сваёй навізной, сучаснасцю, неправінцыяльнасцю. Ды і старонкі новай газеты вызначаліся менавіта гэтым, ды яшчэ яркімі публіцыстычнымі матэрыяламі Уладзіміра Багдановіча.

Убачыў я яго ўпершыню на пасяджэнні літаб'яднання «Крыніцы», якое вёў ужо вядомы на той час паэт Валянцін Лукша. Грубы швэдар «пад Хэмінгуэя», цыгарэта ў крыху паўнаватых кароткіх пальцах… Я не думаў, што гэта першая сустрэча з Багдановічам перарасце ў доўгае, амаль на трыццаць год, сяброўства.

Неўзабаве «Химик» надрукаваў маю вялікую падборку вершаў з партрэтам. У прадмове я называўся рабочым паэтам. Уладзімір Іосіфавіч упадабаў мае творы і прапанаваў напісаць які-небудзь матэрыял аб прадпрыемстве, дзе працую. Праз пару тыдняў на старонках газеты з'явілася паласа пра полацкіх шклозаводцаў.

Ганарар мы «замочвалі» ў парку на беразе Дзвіны. Багдановіч наканоўваў мне бліскучую будучыню і заклікаў паехаць куды-небудзь на вялікую будоўлю ў Сібір або ў геалагічную партыю.

— Паэту патрэбна біяграфія, — сцвярджаў ён.

Сам Багдановіч паспеў павучыцца ў Маскве, у інстытуце кінематаграфіі, а потым захварэла маці, і ён перабраўся ў Наваполацк, працаваў на заводзе апаратарам, пісаў, паступіў на факультэт журналістыкі ў Мінск, быў адлічаны за бойку ў інтэрнаце…

Гэта ўжо была біяграфія, і старэйшы за мяне амаль на дзесяць гадоў Уладзімір здаваўся сапраўдным мэтрам, прыкладам для пераймання.

Мы пасябравалі. Розніца ў гадах патроху згладжвалася, часта паміж намі ўзнікалі спрэчкі, але па-ранейшаму ён лічыў сябе маім настаўнікам і апекаваўся мною.

Між тым, у самога Валодзі было нямала праблем. Таленавіты, абаяльны, ён зрываўся на выпіўкі, не ладзілася асабістае жыццё. Я неаднойчы ўгаворваў яго спыніцца, агледзецца, але марна. Таму вельмі ўзрадаваўся, калі яго маці, Зінаіда Амуратаўна, памяняла сваю наваполацкую кватэру на Мінск. Валодзя стаў жыць у яе, яго ўзялі на працу ў абласную рэдакцыю беларускага радыё, адкуль ён перайшоў у часопіс.

Паявілася сям'я, цудоўная дачушка Наташа, кватэра — словам, жыццё наладзілася. А як узрадаваўся Валодзя, калі я пераехаў у Мінск! Першы ў сталіцы Новы год мы сустракалі ў яго дома, сем'ямі… Было шмат мар і надзей! Валодзя па-ранейшаму пісаў прозу, п'есы, гумарэскі, на якія быў вялікі майстар, надрукаваўся ў калектыўным зборніку. Ён быў на той час уласным карэспандэнтам маскоўскага «Гудка», але гэтая праца вялікага задавальнення не прыносіла.

Калі мяне абралі намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў, Багдановіч прыйшоў да мяне і са слязамі на вачах сказаў:

— Сёння ў мяне самы шчаслівы дзень у жыцці! Нарэшце дачакаўся твайго заслужанага поспеху!

Я быў крануты. Дамовіўся з галоўным рэдактарам «Вожыка» Валянцінам Уладзіміравічам Болтачам, што на маё месца адказнага сакратара прыйдзе Багдановіч. Дарэчы, яго матэрыялы Болтач не раз прыводзіў мне ў прыклад!

...Багдановічу спаўнялася шэсцьдзесят год. З раніцы я забег у «Вожык», павіншаваў яго, дамовіліся, што адзначым юбілей у суботу ў яго дома. А ўвечары Валодзева жонка Аліна са слязьмі паведаміла: пасля сардэчнага прыступу Валодзі не стала…

На пахаванні было нямала людзей. За арганізацыйнымі клопатамі мне не ўдалося нават як след развітацца з сябрам, знайсці ў душы тыя словы, якія хацеў бы сказаць яму ўваслед.

Гэтыя словы і цяпер у маёй душы.

## Прэзентацыя

# Прафесія — збіраць…

Напэўна, кожны з нас хоць аднойчы ў жыцці захапляўся калекцыяніраваннем. У дзяцінстве мы збіралі фанцікі ад жуек, фішкі, абгорткі ад шакаладак. Потым — касеты і дыскі з запісамі любімых выканаўцаў і гуртоў, плакаты з музычных часопісаў, аўтографы, кубкі, паштоўкі, магніцікі на халадзільнік з выявамі розных гарадоў, пакецікі цукру з розных кавярняў... Гэты спіс можна доўжыць бясконца. Але такога кшталту «збіральніцтва» можна назваць хутчэй лёгкім хобі. Складана назваць кагосьці з нас спецыялістам па магніціках ці паштоўках, бо калекцыі збіраюцца ў асноўным стыхійна: нешта шкада выкінуць, нейкія рэчы становяцца нам дарагімі, бо іх дораць блізкія людзі.



Але калі гаворка заходзіць пра іншы ўзровень калекцыянерства — прафесійны, — то мы маем справу ўжо з другім падыходам. Калекцыі складаюцца не стыхійна, а спланавана, жаданыя прадметы часцей набываюцца (нават на прэстыжных аўкцыёнах!), чым дорацца, а самі «збіральнікі» з цягам часу становяцца сапраўднымі знаўцамі справы, экспертамі пэўнай галіны. Гэта не гульня, не забаўка, а справа ўсяго жыцця, якая патрабуе глыбокіх ведаў, сіл, а часам і немалых грашовых сродкаў. Менавіта такія прафесіяналы сталі аўтарамі і героямі новага альманаха **«Калекцыянер»**, што пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда» пры падтрымцы «Белпошты».

Гэты праект можна смела назваць міжнародным. Варта зірнуць на змест выдання і пагартаць яго старонкі. У альманах увайшлі артыкулы доктара Дзяніса А. Хоцімскага (ЗША), Альгірдаса Гліажайдзіса (Літва), Дашы Пагор (Германія), Стэфена Лака (Вялікабрытанія), Пятра Каратыньскага і доктара Казімежа Козіцы (Польшча), Тадэвуша Зяленскага, Уладзіміра Зяньковіча, Дзмітрыя Гулецкага, Алены Мальчэўскай, Сяргея Лобача (Беларусь). Але не думайце, што тэксты, якія склалі альманах, аб'ядноўваюць толькі вокладка ды шырокая тэма калекцыяніравання. Зусім не. Гэты зборнік можа стаць важкім унёскам у гістарычнае крыніцазнаўства: матэрыялы, што ў яго ўвайшлі, прысвечаныя ў асноўным даследаванню гісторыі Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага з гледзішча картаграфіі, нумізматыкі і філатэліі.

У прадмове да альманаха вядомы краязнаўца і даследчык мінуўшчыны Алесь Карлюкевіч піша: «Магчыма, якраз гэты зборнік пакажа свету, што калекцыйная справа ў галіне беларусікі дастаткова развітая. У свой час, недзе ў першай палове 1990-х гадоў, энтузіясты калекцыянерскага руху Уладзімір Цярохін і Алесь Сярожкін, інжынер і будаўнік, паспрабавалі стварыць агульнае інфармацыйнае поле, якое аб'яднала б збіральнікаў памятак зямлі беларускай і выпусціла некалькі нумароў даволі цікавай газеты «Беларускі калекцыянер».

І тэматычная газета, што выходзіла больш як два дзесяцігоддзі таму, і альманах, пра які мы цяпер вядзём гаворку, даказваюць, што збіральнікі гатовыя дзяліцца звесткамі пра свае калекцыі, распавядаць цікавыя гісторыі, дапамагаць калегам «упалюваць» патрэбны прадмет. Іх варта толькі паслухаць. Больш за тое, неаднаразовыя спробы стварыць такія перыядычныя выданні паказваюць, што і ў вузкім полі даследчыкаў, калекцыянераў, і ў шырокім грамадстве існуе цікавасць да прыватных збораў і іх даследавання.

А вам цікава даведацца пра тое, як праходзілі адмысловыя картаграфічныя кірмашы ў Еўропе, як складалася першая карта ВКЛ, якія банкноты былі аддрукаваныя паўстанцамі ў 1794 годзе, якія гістарычныя падзеі і асобы часцей за ўсё прадстаўляюцца на беларускіх марках? Адказы на ўсе гэтыя пытанні вы знойдзеце ў «Калекцыянеры». Міжнародны характар гэтага альманаха вызначае і тое, што артыкулы тут прадстаўлены на беларускай і рускай мовах, а сцісла варыянт кожнага тэксту падаецца і ў перакладзе на англійскую. Такі пераклад можа стаць добрым штуршком-падказкай для далейшых росшукаў даследчыкаў з розных краін, а выдатныя ілюстрацыі могуць не толькі праілюстраваць тэкст, але даць чытачу магчымасць і самому адчуць сябе картографам ці скарбашукальнікам.

Спадзяемся, працяг будзе. Бо і тэматычны абсяг калекцыянерства надзвычай шырокі, і самім збіральнікам даўніны, якія працуюць у галіне беларусікі, яшчэ ёсць пра што распавесці чытачам. У нашай краіне жывуць аматары старых кніг, паштовак, экслібрысаў. Гэтыя даследчыкі могуць самі стаць аўтарамі ці героямі артыкулаў, што ўвойдуць у наступныя выпускі альманаха «Калекцыянер». Думаецца, нас яшчэ чакаюць выдатныя расповеды пра скарбы вялікай гістарычнай значнасці, якія знаходзяцца ў прыватных калекцыях і пакуль хаваюцца ад вока шырокага чытача.

Выдаўцы лічаць, што выдатнай тэмай для расповеду на старонках наступных выпускаў альманаха могуць стаць не толькі прыватныя калекцыі, але і музейныя зборы: гэтыя з'явы нельга разглядаць асобна. Часта здараецца так, што прыватная калекцыя становіцца часткай ці асновай музейнага збору. Варта хаця б прыгадаць калекцыю даўніны, сабраную Іосіфам Стаброўскім, якая склала аснову Слонімскага раённага краязнаўчага музея, ці асабісты фонд Антона Брадоўскага — цяпер частку Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. А колькі яшчэ скарбаў, колькі новых адкрыццяў нас чакае! Таму можна толькі пажадаць: у добры шлях, «Калекцыянер»!

Марына ВЕСЯЛУХА

## На паліцы

# Пасля кропкі

Дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух назвала выданне аповесці Алены Падкацік «Кропка» ў серыі «Дзеці вайны» эксперментам, таму што маладая аўтарка, барысаўская бібліятэкарка, ні ўдзельніцай, ні сведкай тых часін, зразумела, быць не магла. Але ў аснове яе мастацкага твора — лёс жанчыны, якая перажыла ўсе жахі ваеннага ліхалецця ў цэнтры Мінска, на вуліцы Ракаўскай. Да яе, гарадской дзівачкі з неверагоднай колькасцю катоў, што адмовілася пакінуць выкуплены прадпрымальнікам двухпавярховы будынак і пераехаць у новую аднапакаёўку, прыходзіць Людміла Стаханава, адказная за перапіс насельніцтва ў гэтым раёне. У доме ні святла, ні вады. Старая запальвае газнічкі, але не мяняе рашэння — памерці ў тых сценах, якія памятаюць гісторыю яе сям'і.

Мінскае гета, эксперыменты над людзьмі, забойствы ахвяр на вачах родных і блізкіх… Пасляваенныя часы, калі чарапы расстраляных разбіралі на сувеніры… Апошнія дні сведкі даўнейшых гадоў — зноў вайна. З бізнесменам,




якому карціць сцерці памяць будынка, што апынуўся ў сучасным квартале.

Для Людмілы гэтая сустрэча лёсавызначальная. У кантэксце рамана падзеі 2009 года, калі ў нашай краіне праводзіўся перапіс насельніцтва, перабіваюцца акордамі даваенных і ваенных дзён. Успаміны старой з Ракаўскай вуліцы — гэта моцна завязаны вузел лёсаў людзей з розных краін — Германіі, Беларусі, Расіі, Швецыі… Раскручваючы кожную сюжэтную лінію, аўтар паказвае фатальную сувязь учынкаў удзельнікаў тых падзей з жыццём іх нашчадкаў. Гісторыя вайны праступае ў сённяшнім дні настолькі рэальна, што чытач разумее: яе нельга пахаваць пад сучасным рамонтам.

Выкарыстаныя ў сюжэце факты з хронікі ваеннага Мінска глядзяцца вельмі арганічна. Алене Падкацік удалося знайсці дакладную інтанацыю, каб чытач адчуў: твор напісаны не на «патрэбу дня», а выпакутаваны сэрцам. Яго смела можна прапанаваць і як жаночы раман: на старонках кнігі хапае месца каханню, што прымушае рабіць неверагодныя ўчынкі, і хэпі-энду. Вартасці твора гэта не зніжае. Да таго ж, як сведчыць статыстыка, большасць пакупнікоў кніг менавіта жанчыны. Ды і назва —«Кропка» — пасля прачытання ўспрымаецца не фіналам, а паўзай.

Зміцер ХВОЙНЫ

# Як загартоўваецца акцёр?

Драматычны акцёр, ён прыйшоў у тэатр лялек і выконвае галоўныя ролі ў дзіцячых спектаклях. Падрабязнасці насычанага жыцця тэатральнага навабранца — у інтэрв'ю з акцёрам Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Дзмітрыем Чуйковым.

— Я прыйшоў у тэатр лялек год таму — як малады спецыяліст. Падкупілі цікавыя формы і эксперыментальныя рашэнні ў пастаноўках гэтага тэатра. Нават і не спадзяваўся, што артыста з драматычнага аддзялення сюды возьмуць. Але ўзялі! Пачалося ўсё з навагодніх ранішнікаў: я выконваў ролю Разгубляшы — памочніка Дзеда Мароза. Вельмі хваляваўся! Па-першае, праца з дзецьмі: тут нельга халтурыць! Падругое, баяўся ўдарыць тварам у гразь. Дарэчы, перад старэйшымі калегамі ўсё прайшло нядрэнна.

**— Праца акцёра з дзецьмі — справа асаблівая.**

— Так. Але ў той жа час гэта і на руку: дзеці непасрэдныя, рэагуюць на ўсё жыва. Калі ты працуеш добра, яны адразу даюць табе адэкватную адзнаку, разумееш, што правільна дзейнічаеш у кантэксце дадзенага персанажа. Калі чуеш шчыры дзіцячы смех, бачыш маленькіх гледачоў, якія спрабуюць дапамагчы персанажу гучнымі падказкамі, — яшчэ больш далучаешся да працэсу, атрымліваеш неверагоднае задавальненне.

**— Бывае цяжка?**

— Безумоўна! Напрыклад, з Малым са спектакля «Малы і Карлсан». Трэба іграць узрост, а гэта заўсёды нялёгка. Малы яшчэ зусім дзіця, але пры гэтым ужо і асоба, якая ў пэўнай меры сфарміравалася. Калі ў некаторых спектаклях узроставую характарыстыку можна перадаць за кошт галасавога і маўленчага «крыўляння», то як быць з Малым? Пасля некалькіх спектакляў я прыйшоў да высновы, што галоўнае — паглыбляцца ў сітуацыю, тады ў словах персанажа нараджаюцца цікавыя падтэксты, з'яўляецца шчырасць — вось галоўнае.

**— У дзяцінстве вы чыталі гэтую казку?**

— Сорамна, але не чытаў, толькі глядзеў мультфільм. Але неабходнасць прачытання непасрэдна самой казкі знікае, бо падчас рэпетыцый на сцэне чытаеш п'есу, і рэжысёр усё дасканала тлумачыць. Гэта не «Гамлет» альбо іншы псіхалагічны твор, тут важна іншае: пазнаёміцца з псіхалогіяй маленькага чалавека, у паўсядзённасці назіраць за паводзінамі дзяцей. У іх зусім іншае жыццё: вось яны пакрыўдзіліся, паплакалі, а праз імгненне ўжо скачуць ад радасці, маючы процьму аб'ектаў увагі!

**— Як «загартоўваецца» акцёр?**

— Гэта паступовае ўнікание ў творчы тэатральны працэс. Калі я адыграў ранішнікі, мяне пачалі ўводзіць у дзіцячыя спектаклі. У «Чырвоным капялюшыку» спачатку кіраваў лёскамі, на якіх мацаваліся матылькі і птушкі. Гэта для таго, каб адчуць непасрэдна сам механізм лялечнага спектакля, яго атмасферу. Потым «дарос» да Вожыка, персанажа больш складанага ў кіраванні, а цяпер іграю Ваўка. Гэтая роля цікавая і складаная тым, што ты ўжо не хаваешся за шырмай, кіруючы механізмам лялькі, а знаходзішся непасрэдна перад гледачамі. Маска ж дыктуе табе асаблівыя ўмовы існавання на сцэне, патрабуе пэўнай пластыкі.

**— Цікава, што ў адной пастаноўцы ўдзельнічаюць як лялькі, так і акцёры. Ці складанае для вас такое ўзаемадзеянне?**

— Не скажу бы. Унутранага дыскамфорту я не адчуваю. Усе мы ў дзяцінстве гулялі з лялькамі і машынкамі. Як у Малога быў Карлсан, так у мяне быў уяўны сябар — сабака з дзіўным іменем Чогі. Да гэтага часу памятаю, як я наварочваў кругі па зале, уяўляючы, што са мной бегае аўчарка — у суседзяў была сабака гэтай пароды… Таму сёння ў працы з партнёрам-лялькай ніякіх нязручнасцей не ўзнікае.

**— Ці не хацелася б вам сыграць у «дарослым» спектаклі?**

— Не. Да любой працы ў тэатры я стаўлюся сур'ёзна, не падзяляю ролі на больш і менш значныя, любы персанаж важны і пры выкананні патрабуе самааддачы. Збянтэжанасці з нагоды таго, што іграю сямігадовага хлопчыка, а не сталага героя, у мяне ніколі не ўзнікала. Вядома, хочацца паспрабаваць сябе ў розных ролях, але ёсць такая разумная фраза: «Рабі, што трэба, і будзь што будзе».

**— У якіх новых пастаноўках вы будзеце задзейнічаны?**

— Вось цяпер мяне ўводзяць у спектакль «Вясёлы цырк». Пастаноўка не новая, але яна не страціла сваёй актуальнасці і прывабнасці, ставілася яшчэ бацькам нашага галоўнага рэжысёра. Я актыўна працую над сабой. У чымсьці ўжо набіў руку. Увогуле, гэты дзіцячы спектакль будзе цікавы і дарослым. Дзеці прыходзяць у лялечны тэатр з бацькамі або настаўнікамі. Дарослыя, мяркую, таксама нешта вынесуць для сябе са спектакляў. Дарэчы, у пастаноўцы «Малы і Карлсан» шмат спасылак, адрасаваных менавіта да сталага ўзросту катэгорыі.

Што да «Вясёлага цырка» — цікава, але для мяне ўводы ў новы спектакль — стрэсавая сітуацыя. Большая частка трупы ўжо даўно іграе ў ім, а ты — з месяца ў кар'ер. Даводзіцца шмат рэпеціраваць і хутка ўсё схопліваць.

**— Старэйшыя калегі дапамагаюць?**

— Так. Але калі штосьці не атрымліваецца, то… (*смяецца*) як кажуць, і пугай, і пернікам. У асноўным — пернікам. Калі прыходзіш у тэатр — пачынаеш зноўку вучыцца. Спачатку цяжка, але з кожным выхадам на сцэну выпрацоўваюцца пэўныя навыкі, становіцца лягчэй, больш вольна сябе адчуваеш, з'яўляюцца моманты імправізацыі — такі пастаянны пошук.

**— Пры выкананні ролі захоўваецца поўная дакладнасць?**

— Не, руціны няма. У акцёрскай працы імкнуся не пагружаць сябе ў штампы. Ёсць, вядома, пэўны каркас, малюнак мізансцэн,



зададзены рэжысёрам, абыгрываць які — твая акцёрская задача. Цяжка бывае, калі тэкст яшчэ не ўклаўся. І самае брыдкае пачуццё, калі не ведаеш, што табе рабіць на сцэне, адчуваеш сябе не ў сваёй талерцы: не слухаеш партнёра, у галаве толькі круціцца: «Што далей, у якую кулісу сыходзіць трэба?» А калі некалькі спектакляў адыграў, усё даводзіцца да аўтаматызму — і гэта выдатна!

**— Самае складанае — напэўна, прэм'ерны спектакль?**

— Ён быў вельмі хвалюючым, але прайшоў нармальна, роўна. Зноў жа, мяне турбавала, як не забыцца на нешта, як усё адыграць без памылак у тэхнічным плане? Але з кожным разам менш нервуешся, атрымліваеш больш задавальнення ад гульні.

**— Як вы рыхтуецеся да выхаду на сцэну?**

— Хутка, літаральна за пяць хвілін. Сабраўся, увесь спектакль прайграў у свядомасці, узгадаў важныя дэталі, паўтарыў асноўныя ўстаноўкі рэжысёра. А потым ужо арыентуешся па ходзе дзеяння. Галоўнае — слухаць і разумець, што адбываецца.

**— Ці існуе агульны акцёрскі рытуал перад выхадам на сцэну?**

Калі іграем прэм'еру, «качаем рукі»: усе ўздыхнулі, аўру агульную адчулі, настроіліся на адну хвалю — і выходзім на сцэну. Таксама існуе «шчаслівы пендаль» (*смяецца*). Яго ў асноўным старэйшыя акцёры даюць маладым артыстам альбо тым, каго ўвялі на новую ролю — на шчасце! Ну, і знаёмае: «Ні пуху, ні пер'я!»

**— У дзяцінстве тэатры наведвалі?**

— Бацькі вадзілі мяне на балет, некалькі разоў быў у Тэатры юнага гледача. Памятаю, і батлейку глядзеў, але лялечны не наведваў. Да паступлення ў Акадэмію мастацтваў я не ўяўляў па-сапраўднаму, якім можа быць тэатр. Паступова прыйшло разуменне таго, што тэатр, як і любы від мастацтва, актыўна развіваецца. У адрозненне ад замежных, наш тэатр для людзей адыходзіць на другі план. А хочацца, каб інтарэс да спектакляў павялічваўся, каб публіка глядзела цікавыя эксперыментальныя пастаноўкі…

**— Тады якім павінен быць дзіцячы тэатр?**

— Больш адказным, бо дзеці моцна рэагуюць на ўсе знешнія прыстасаванні. Паглядзіце, якія ў тым жа спектаклі «Малы і Карлсан» вялікія лялькі, яркія колеры і цікавыя дэкарацыі! Акрамя таго, адказнасць павінна падмацоўвацца добрым матэрыялам. У казках закладзена шмат важных пасланняў, па-майстэрску зашыфраваных аўтарам. Дзіцячы пісьменнік імкнецца чароўнай мовай распавесці пра добрае і дрэннае. Падчас спектакля дзеці ўяўляюць, што і яны знаходзяцца як быццам на сцэне, хвалююцца за герояў, хочуць быць падобнымі да іх. Таму дзіцячая літаратура і тэатр выконваюць велізарную павучальную функцыю. Толькі калі становішся дарослым, усведамляеш, што казка, якую ты чытаў або глядзеў у дзяцінстве, заклала ў цябе асноўныя каштоўнасці. У ёй на самай справе ўся праўда жыцця…

**Паліна ПЛАТАВА**

# Купала ў Вільні

Вернісаж выстаўкі «Не загаснуць зоркі ў небе» адбыўся ў Пасольстве Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі. Тут экспануюцца арыгінальныя мастацкія работы з калекцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

На пачатку імпрэзы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус пажартаваў, што гэтая адмысловая выстаўка ў фае пасольства прысвечана «нашаму Купалу ў вашай Вільні». І спадар пасол не памыліўся. Ён зазначыў:

— Праз сувязі і сяброўства з літоўскімі пісьменнікамі Янка Купала стаў часткай літоўскай культуры, а разам з іншымі выдатнымі творцамі ператварыў Вільню ў буйны цэнтр беларускай культуры. Сёння творы Купалы даюць нам магчымасць сцерці межы паміж дзяржавамі і народамі, якія падзяляюць нас мацней, чым 100 гадоў таму.

І сапраўды, пра ролю Вільні ў жыцці і творчасці Песняра можна гаварыць шмат. Тут ён знайшоў збавенне ад аднастайнага і нецікавага жыцця, цяжкой фізічнай працы, атрымаў магчымасць шмат чытаць і пісаць, пазнаёміўся з выдатнымі рупліўцамі беларускай справы, урэшце, стаў супрацоўнікам рэдакцыі газеты «Наша ніва»... Таму як Вільня пакінула адбітак на лёсе і творчасці Купалы, так і развагі пра вобраз Песняра на вуліцах гэтага старажытнага горада натхнілі многіх беларускіх мастакоў на стварэнне адметных работ. У межах экспазіцыі «Не загаснуць зоркі ў небе» прадстаўлены работы Барыса Малкіна, Мікалая Селешчука, Анатоля Налівева, Уладзіміра Сулкоўскага, Міколы Купавы, Міхаіла Басалыгі і іншых выдатных майстроў. Тут можна пабачыць



*Мікола Купава. Друкарня газеты «Наша Доля», 1984 г.*

і выдатныя віды гары Гедыміна, старых віленскіх вуліц, і партрэты самога Купалы, яго жонкі Уладзіславы Францаўны, і паназіраць за сустрэчай Валерыя Брусава, Людаса Гіры, Янкі Купалы, Змітрака Бядулі і Цёткі, што адбылася сто гадоў таму ў Вільні.

— Прыемна, што купалаўскія сцежкі ў Вільнюсе і сёння не зарастаюць, — падкрэсліла дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч. — Пра паэта памятаюць не толькі беларусы, якія там жывуць, але і літоўцы. Мы ўсе ўдзячныя за тое, што летась была адкрыта мемарыяльная дошка Купалы ў літоўскай сталіцы, гэта таксама даніна павагі літоўскага народа і дзяржавы беларускаму паэту.

Вернісаж выстаўкі — не адзіная падзея ў пасольстве Літвы ў Беларусі. Гэтая імпрэза стала і выдатнай магчымасцю правесці ўжо традыцыйную вясновую акцыю «Чытаем Купалу разам». Каля мастацкіх работ, прысвечаных Купалу і Вільні, гучалі вершы Песняра — па-беларуску і па-літоўску.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэм'еры*

# Шчаслівай дарогі, «Дыліжанс»!

У культурным жыцці Беларусі адбылася важная падзея. Нацыянальны акадэмічны тэатр Якуба Коласа сустрэў вясну прэм'ерным мюзіклам-памфлетам кампазітара-віртуоза Уладзіміра Кандрусевіча «Дыліжанс», напісаным паводле сентыментальнага фарса Леаніда Філатава, які выкарыстаў сюжэт навелы Гі дэ Мапасана «Пышка».

Уладзімір Кандрусевіч плённа супрацоўнічае з многімі тэатрамі Беларусі. Спектакль бліскуча і элегантна паставіў выдатны рэжысёр Сяргей Куліkоўскі. 1, 2, 14 сакавіка прэм'еры прайшлі з супераншлагам (26 сакавіка адбудзецца чацвёртая).

Артысты цудоўна спяваюць, тэмпераментна танцуюць у сваіх «французскіх» уборах. Усе проста купаюцца ў дыялогах!

Паэту і перакладчыку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Уладзіміру Скарынкіну, якога Валерый Анісенка жартаўліва называе не інакш як геніем і класікам, удалося перадаць імклівы, спружыністы, філіграннны, палётны радок філатаўскага творчага почырку. Леаніду Філатаву, як вядома, уласціва вострае, непрыхаванае высмейванне герояў, а таксама лёгкі стыль.

Наогул, Коласаўскі тэатр — храм мастацтва ў духоўнай сталіцы Беларусі. Ён — асяродак культуры славутага сівога Віцебска.

Дырэктар — мастацкі кіраўнік Валерый Анісенка стварыў у калектыве тэатра цёплую атмасферу, якая спрыяе плённай творчасці. Выдатны рэжысёр-псіхолаг, ён не скупіцца на кампліменты і пахвалу, так неабходныя творчым людзям. Любімае слова Валерыя Данілавіча — «цуд!» Таму коласаўцы здзіўляюць і радуюць свайго адданага гледача. Няхай жа гэты цуд адбываецца кожны дзень!

**Валянціна ЛУЦЭВІЧ**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Уладзімір ПРЫХАЧ, настаўнік матэматыкі смаргонскай гімназіі, краязнаўца, распавядае пра тое, як захоўваецца ў рэгіёне памяць пра Першую сусветную вайну:**

— На жаль, падзеі тых часоў многім мала вядомы, бо з-за рэвалюцыі 1917 года і Грамадзянскай вайны пра Першую сусветную па ідэалагічных меркаваннях стараліся не ўзгадваць. На Смаргоншчыне па сёння захаваліся матэрыяльныя напаміны пра тыя трагічныя гады. Перш за ўсё гэта больш як паўсотні могілак рускіх і нямецкіх салдат. Стан пахаванняў розны. Некаторыя толькі ўдалося ўстанавіць. Напрыклад, летась мясцовыя краязнаўцы знайшлі фотаздымак брацкай магілы ў вёсцы Залессе, дзе былі пахаваны рускія салдаты, якія загінулі падчас газавай атакі ў 1916 годзе. На шыльдзе пазначана: «Здесь покоятся гренадеры 14 Грузинского, 15 Тифлисского и 16 Мингрельского и ниж. чины 6 пех. Либавского полка, отравленные удушливыми газами 20 июля 1916 г.». Юныя даследчыкі разам з настаўнікамі адправіліся ў краязнаўчую вандроўку і вызначылі, дзе знаходзіцца магіла. На тым месцы больш не праводзіліся пахаванні: людзі памяталі пра гібель вайскоўцаў. Сёння тут плануецца ўсталяваць памятны знак.

Падчас вайны змагаліся з ворагам не толькі людзі, але і хрысціянскія храмы, якія апынуліся на перадавой. Калючы дрот лініі фронту падзяліў раён амаль на дзве роўныя часткі і пры гэтым так, што на нямецкім баку засталіся амаль усе каталіцкія святыні, а да рускіх пазіцый адышлі праваслаўныя цэрквы Смаргоншчыны. У вёсцы з сімвалічнай назвай Навaспаск захаваўся храм, які моцна пацярпеў ад нямецкіх артабстрэлаў і не ўзнаўляўся з тых далёкіх часоў. Калі ўражлівы сучаснік дакранецца да сцен знявечанага помніка дойлідства, то зможа адчуць подых вайны. Безліч нямецкіх бетонных схронаў і дотаў, аплыўшых акопаў, насыпаў ад былых вузкакалеек, магутныя апоры ад мастоў праз Вяллю не могуць не ўразіць.

Шмат людзей, якія пасля праславіліся сваімі талентамі, у гады вайны апынулася пад Смаргонню і Крэвам. З кожным годам гэты спіс становіцца ўсё больш багатым на імёны. У 43-м Сібірскім палку 38-га армейскага корпуса на крэўскіх пазіцыях ваяваў Ігнат Дварчанінаў, а ў 24-м транспарце пятага абознага батальёна той жа 10-й рускай арміі служыў Сымон Рак-Міхайлоўскі. Рэаліі вайны на гэтым участку фронту апісваў Максім Гарэцкі, узгадваў іх і Ігнат Буйніцкі.

Летам 1917 года дапамагаў у падрыхтоўцы ліпеньскага наступлення рускай арміі французскі легіянер і мужны салдат Зіновій Пешкаў — прыёмны сын Максіма Горкага, сябра дэ Голя і вядомы ў далейшым брыгадны генерал французскай арміі.

Хто не чуў пра французскую актрысу рускага паходжання Марыну Уладзі! Аднак няшмогія ведаюць, што яе дзядулем па лініі маці быў рускі генерал і Георгіеўскі кавалер Яўген Энвальд. Напэўна, цікавасць выкліча і той факт, што на працягу некалькіх летніх месяцаў 1917 года ён узначальваў рускую 28-ю пяхотную дывізію, якая знаходзілася каля Залесся.

Існуе спрадвечная ісціна: народ, які не жадае ведаць пра мінулае, не варты будучыні. Для нас актуальным застанецца не толькі захаванне памяці пра падзеі Першай сусветнай вайны, але і ўшанаванне яе ўдзельнікаў.

*Музейны ўнікат*

# Папярэднік еўрапейскіх канстытуцый

Адзін з асноўных кірункаў дзейнасці Музея гісторыі Магілёва — пошук і набыццё ў прыватных асоб гісторыка-культурных каштоўнасцей, якія адпавядаюць галоўнай тэматыцы дзеючай экспазіцыі «Магілёў эпохі Магдэбургскага права».

Сярод значных набыткаў — Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Кніга была выдадзена каля 1600-га на старабеларускай мове ў друкарні Мамонічаў (Вільня). Статут — вышэйшы заканадаўчы акт Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, папярэднік еўрапейскіх канстытуцый. Выданне займелі ў 2012 годзе дзякуючы сродкам, якія паступілі ад нераўнадушных магіляўчан, і спонсарскай дапамозе кампаніі *Alpari*.

— У музеі ёсць яшчэ Трэці Статут ВКЛ, але на польскай мове, выдадзены ў 1744 годзе, — паведаміў пісьменнік, журналіст і дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў. — У склад кнігі ўваходзяць Статут ВКЛ 1588 года, трыбунал Вялікага Княства Літоўскага і Інструктаж ВКЛ. Маюцца запісы на палях, з якіх вынікае, што ўладальнікам кнігі ў канцы XVIII стагоддзя быў шляхціц з Магілёўшчыны Антоні Сабанскі. Спонсарскую дапамогу пры набыцці менавіта гэтага выдання аказаў магіляўчанін, які цяпер жыве і працуе ў Расіі, — пісьменнік Валерый Казакоў.

Прыцягваюць увагу наведвальнікаў і дзве кнігі «Часоўніка», выдадзеныя ў Магілёўскай брацкай друкарні па замове старавераў. У самых кнігах годам выдання пазначаны 1733-і, аднак экспертыза паказала: у адным выпадку гэта падман, на які пайшлі друкары, каб абысці забарону на друк стараверскіх выданняў, што пачаў дзейнічаць пасля далучэння Магілёва да Расійскай імперыі ў 1772 годзе.

— У гэтай друкарні ў 1733 годзе пабачыла свет кніга «Псалтыр», два экзэмпляры якой у розным стане мы купілі за ўласныя сродкі, — працягвае Аляксей Бацюкоў. — Такім жа чынам набылі ў прыватнага калекцыянера некалькі нумароў часопіса «Могилевскія губернскія вѣдомости», які выдаваўся з 1838 года як афіцыйная ўрадавая газета магілёўскага губернскага кіраўніцтва. Дзякуючы ахвяраванням Алеся Чайчыца з Масквы займелі выданне «Дзіўныя паведамленні пра езуітаў у Беларусі» — палемічны твор, напісаны ў другой палове XVIII стагоддзя, які распавядае пра падзеі, звязаныя з ліквідацыяй ордэна езуітаў і стварэннем каталіцкай дыяцэзіі ў Магілёве на чале з біскупам Станіславам Богуш-Сестранцэвічам. Кніга была выдадзена ў Германіі ў 1786 годзе.

Сярод унікальных экспанатаў — карта ВКЛ, падрыхтаваная бельгійскім картографам Меркатарам у 1595 годзе. Передрукавана пасля смерці аўтара. Гэта першая карта, якая паказвае Вялікае Княства Літоўскае як асобную краіну, тут таксама ўпершыню ўказваецца Магілёў. Выдадзена карта ў Бельгіі ў 1608 годзе.

Дапытлівых наведвальнікаў уражвае і падшыўка адной з першых у свеце ілюстраванай газеты-штотыднёвіка *Illustrirer Zeitung* (г. Лейпцыг, Германія) за першае паўгоддзе 1863-га, у якой змешчаны публікацыі пра падзеі ў свеце, у тым ліку і на тэму паўстання 1863 года ў Беларусі, Польшчы і Літве. Дарэчы, і карта, і гэтыя газеты набыты за сродкі неабыякавых да сваёй спадчыны людзей.



*Ілюстрацыя з газеты Ilustrirer Zeitung за I паўгоддзе 1863 г.*




*Карта Герхарда Меркатара, 1608 год. Першая выява Магілёва на карце.*

— За некалькі гадоў мы змаглі выкупіць у прыватных калекцыянераў дзясяткі ўнікальных экспанатаў, а яшчэ сотні атрымаць у падарунак. З большасцю ўжо сёння могуць пазнаёміцца ўсе жадаючыя, — заўважае Аляксей Бацюкоў. — Цяпер вядзём перамовы з адным прадаўцом наконт пакупкі кнігі «Апостал», выдадзенай Спірыдонам Собалем, верагодна, у Куцейне (пад Оршай) альбо ў Магілёве ў 1632 — 1635 гадах. У нашых планах таксама кнігавыдавецкі праект. Акрамя выдання па падпісцы перакладу кнігі «Дзіўныя паведамленні пра езуітаў у Беларусі» мы мяркуем выдаць альбом са старажытнымі выявамі Магілёва, а на будучыню плануем выданне, прысвечанае магілёўскай школе кнігадрукавання.

**Раіса МАРЧУК**

*Да Дня Вялікай Перамогі*

# І газеты змагаліся

Выстаўку «Словы таксама зброя: 1944 год на газетных палосах», прысвечаную 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прэзентавалі нядаўна супрацоўнікі Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.




Тэма вайны тут прадстаўлена не баявымі дзеяннямі, а праз ідэалагічную барацьбу — пры дапамозе газетных публікацый. Назва экспазіцыі цалкам адлюстроўвае яе тэму, бо абодва бакі, якія супрацьстаялі адзін аднаму, звярталіся да розных метадаў прапаганды і ўздзеяння на свядомасць грамадзянскага насельніцтва і войск праціўніка.

— Матэрыялы для выстаўкі шукалі ў фондах нашай установы і дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, — распавяла галоўны захавальнік фондаў Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея Зоя Нярэзька. — Адабралі і алічбавалі каля 50 матэрыялаў: газеты, плакаты, лістоўкі, фотаздымкі часоў акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі, датаваныя пераважна 1944 годам. Аформілі 21 стэнд, на кожным з якіх у выглядзе калажу прадстаўлены артыкулы з савецкіх і калабарацыяністкіх газет.

Экспазіцыя грунтуецца выключна на краязнаўчым матэрыяле, за аснову ўзяты публікацыі з газет, якія выдаваліся на Брэстчыне. У прыватнасці, прадстаўлены падпольныя выданні ўсіх трох абкамаў Камуністычнай партыі Беларусі: газеты «Заря» Брэсцкага, «Чырвоная звязда» Баранавіцкага і «Палеская праўда» Пінскага абласных камітэтаў КПБ. Выкарысталі таксама прэсу, якую выдавалі гаркамы і райкамы партыі.

— Выстаўка «Словы таксама зброя: 1944 год на газетных палосах» запланавана як перасоўная, — зазначыла Зоя Нярэзька. — Упершыню яна была прадстаўлена на рэспубліканскім ідэалагічным семінары, які адбыўся ў Брэсце напрыканцы лютага. Пакуль экспазіцыя размешчана ў брэсцкім кінатэатры «Беларусь», але хутка вернецца ў наш музей. Пазней плануюць вывозіць у вучэбныя ўстановы і раёны вобласці.

**Міра ІЎКОВІЧ,**

**фота прадастаўлена Брэсцкім абласным краязнаўчым музеем**

# Тэст на веданне гісторыі

Да гэтых нататак падштурхнулі мяне падзеі, якія адбыліся год таму. Напрыканцы 2012-га падчас навуковай камандзіроўкі ў Маскве я быў запрошаны вядомым расійскім гісторыкам, акадэмікам Расійскай акадэміі адукацыі, заслужаным прафесарам Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта Сігурдам Шмітам на краязнаўчае мерапрыемства ў Гісторыка-архіўны інстытут.

### МАНУМЕНТАЛЬНЫ ЛЕТАПІС МАСКВЫ

Аддзяленне краязнаўства і гісторыка-культурнага турызму Гісторыка-архіўнага інстытута Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта сумесна з Саюзам краязнаўцаў Расіі і Маскоўскім краязнаўчым таварыствам правodзілі 129-ю канферэнцыю-прэзентацыю новай літаратуры па краязнаўстве і масквазнаўстве пад назвай «Сустрэчы на Нікольскай». Першая частка пасяджэння прысвячалася мерапрыемствам, якія Саюз краязнаўцаў і яго Маскоўскае таварыства правялі ў лістападзе, а падчас другой быў прадстаўлены шэраг новых выданняў краязнаўчага характару.

Сігурд Шміт пазнаёміў мяне і з газетай Урада Масквы «Тверская, 13» за 24 лістапада, у якой пад рубрыкай «Краязнаўства» была змешчана інфармацыя пра «Сустрэчы на Нікольскай», куды запрашаліся ўсе жадаючыя. Кінулася ў вочы, што побач, пад рубрыкай «Спадчына», размяшчаўся артыкул карэспандэнта газеты А. Няфёдава «Ад векавых каранёў». Гэта была рэцэнзія на кнігу «Живая вера. Ветка», выдадзеную Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі ў межах выдавецкай праграмы Урада Масквы пры фінансавай падтрымцы Дэпартамента сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы Масквы.

З задавальненнем прыняў запрашэнне, бо яно дазваляла ў чарговы раз пабываць там, дзе больш як 30 год таму абараняў дыпломную працу, а потым і дысертацыю. Сустрэцца з сябрамі і калегамі, гісторыкамі-архівістамі і краязнаўцамі, а яшчэ — ініцыятарам і кіраўніком мерапрыемства, цяперашнім загадчыкам кафедры рэгіянальнай гісторыі і краязнаўства Гісторыка-архіўнага інстытута, прафесарам Уладзімірам Казловым, якому С. Шміт у свой час перадаў кіраўніцтва Саюзам краязнаўцаў Расіі, утвораным у 1990 годзе. Адначасова У. Казлоў узначальвае і яго Маскоўскае таварыства.

Увайшлі ў залу, і я адразу звярнуў увагу на сталага чалавека, які сядзеў у прэзідыуме. Гэта быў 87-гадовы інжынер-канструктар, гісторык, масквазнаўца, краязнаўца па прызванні Алег Пяскоў, біябібліяграфічны паказчык якога толькі што выдадзены ў серыі «Расійская інтэлігенцыя» і прэзентаваўся падчас канферэнцыі. Навуковы рэдактар выдання — С. Шміт, які напісаў да яго прадмову. У апошняй падкрэслівалася, што, не атрымаўшы спецыяльнай гуманітарнай адукацыі, А. Пяскоў самастойна авалодваў ведамі і прыёмамі, якія дазволілі яму быць аўтарытэтным гісторыкам-краязнаўцам. Сігурд Шміт адзначыў уклад Алега Пяскова ў развіццё масквазнаўства, бо той стварыў унікальную калекцыю друкаваных і архіўных матэрыялаў пра Маскву, якая налічвае 205 тысяч (!) адзінак захоўвання і нядаўна прынята ў Галоўархіў Масквы.

«Аднак у масквазнаўстве ёсць тэма, — адзначаў навуковы рэдактар, — у вывучэнні якой менавіта Алег Пяскоў і сёння застаецца галоўным і выдатным спецыялістам. Гэта — мемарыяльныя дошкі людзям, памяць пра якіх выбіта ў камені, і інфармацыя пра гісторыю ўсталявання і захавання такіх мемарыялаў».

Выступаючы на пасяджэнні, А. Пяскоў паведаміў, што яго захапленне тэмай пачалося пасля 1965 г., калі краіна ўпершыню адзначыла свята Перамогі. У сувязі з гэтым у Маскве было ўзведзена шмат мемарыялаў, прысвечаных ваенным падзеям. Вось тады Пяскоў і пачаў свае «маскваходкі». Ён зафіксаваў каля 400 дошак, склаў адпаведныя карткі. Разумеючы, што іх значна больш, звярнуўся ва Упраўленне культуры Масгарвыканкама, у аддзел, які павінен быў займацца ўлікам усіх наяўных дошак і фіксаваць тыя, што адкрываліся ў горадзе. «Сустрэлі мяне як чыноўнікі, — піша А. Пяскоў. — Пасля дзесяці слоў зразумеў, што работа ў гэтым кірунку не на вышыні, а гэта ж іх асноўны занятак. Вынік ад такога «культпаходу» быў адзін — працягваць самастойныя пошукі і рыхтаваць кнігу».

У 1978 г. такое выданне пад назваю «Память, высеченная в камне (мемориальные доски Москвы)» пабачыла свет. У ёй складальнік паведаміў пра 616 памятных месцаў Масквы, дзе былі ўсталяваны мемарыяльныя дошкі. На працягу тыдня 75-тысячны тыраж кнігі быў раскуплены. Праз пяць год выйшла другое, дапоўненае, выданне, дзе было зафіксавана ўжо больш



*Адкрыццё мемарыяльнай дошкі У. Ігнатоўскаму на будынку Інбелкульта ў 1991 г. Выступае акадэмік А. Махнач.*

як тысяча маскоўскіх мемарыялаў. Трэцяе ўбачыла свет у 2009 г.: у ім былі змешчаны звесткі пра 2005 мемарыяльных і памятных дошак. Яно стала сапраўдным манументальным летапісам Масквы. Каб знайсці і зафіксаваць усе мемарыялы амаль на 600 вуліцах сталіцы, ветэран Вялікай Айчыннай вайны А. Пяскоў прайшоў больш як 5 тысяч кіламетраў!

### ЗАДАЧА ДЛЯ ГІСТОРЫКАЎ-АРХІВІСТАЎ

Выкладаючы з канца 1990 г. будучым гісторыкам-архівістам курс археаграфіі, распавядаючы пра дзейнасць утворанай у сярэдзіне 1920-х гг. Археаграфічнай камісіі Інбелкульта, я звяртаю іх увагу на тое месца, дзе яна знаходзілася. Адначасова гэта своеасаблівы тэст на веданне студэнтамі гісторыі сваёй сталіцы. На жаль, іх адказы не заўсёды здавальняючыя.

Звычайна паказваю ім фота будынка па вуліцы Рэвалюцыйнай, 15. Сучасныя здымкі з мемарыяльнымі дошкамі У. Ігнатоўскаму (адкрыта ў 1991 г.) і першаму старшыні Інбелкульта С. Некрашэвічу (з'явілася крыху пазней і сведчыла, што тут быў Інбелкульт). Даваенныя здымкі ўдзельнікаў беларускіх краязнаўчых з'ездаў, з'ездаў даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, якія адбываліся тут у 1926 — 1927 гг., і г. д. Адчуваю, што пасля такіх звестак студэнты пачынаюць па-іншаму ўспрымаць знаёмыя мясціны, што не можа не выклікаць задавальнення з боку выкладчыка. Але ж…

Неяк напярэдадні Новага года вырашыў прайсці па старым горадзе. Амаль як у песні: прайшоў па Кальварыйскай, звярнуў на Рэвалюцыйную. Спачатку думаў, што памыліўся: на Рэвалюцыйнай ёсць былы будынак Інбелкульта, у якім раней знаходзіліся Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны, Грамадскае аб'яднанне «Бацькаўшчына». Цяпер тут Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь, салон прыгажосці і г. д. Але дзе мемарыяльныя дошкі? Абышоў будынак раз, другі, але нічога не ўбачыў.

Падумалася: няўжо першы Прэзідэнт Беларускай акадэміі навук, якім быў Усевалад Ігнатоўскі, не заслужыў мемарыяльнай дошкі — у адрозненне ад свайго пераемніка, прысланага пасля самагубства вучонага ў 1931 г., вучня сумна вядомага М. Пакроўскага — П. Горына-Каляды, мемарыяльная дошка якому адкрыта на фасадзе будынка Інстытута гісторыі НАН Беларусі? Думаю, варта належна ставіцца да мемарыяльных і памятных знакаў, нягледзячы на тое, адкрыты яны на фасадзе былога «Другога Дома Саветаў» (рог вуліц Леніна і К. Маркса) ці на фасадах іншых дамоў. І нават калі дошку У. Ігнатоўскаму перанеслі на вуліцу яго імя ў мікрараёне Кунцаўшчына (дапускаю гэта), лічу, што так не павінна быць. Вось тут і спатрэбіцца падзвіжнікі кшталту А. Пяскова, якія б зафіксавалі (хаця б у даведніках) памятныя знакі і мемарыяльныя дошкі. Мару далучыць да гэтай высакароднай справы студэнтаў-гісторыкаў, якія дапамаглі б стварыць мемарыяльны летапіс беларускай сталіцы.

Калі падрыхтаваў гэты матэрыял, звязаўся з вядомым гісторыкам беларускай навукі, аўтарам-складальнікам шэрагу дакументальных выданняў пра Інбелкульт і Беларускую акадэмію навук, кандыдатам гістарычных навук М. Токаравым, які паведаміў пра вельмі заблытаную гісторыю з гэтымі мемарыяльнымі дошкамі. Яны зніклі падчас рэстаўрацыі будынка Інбелкульта. Пазнейшыя спробы, у тым ліку і яго, аднавіць іх (хаця б у выглядзе копій, таму што арыгіналаў, як ён лічыць, ужо не існуе) не далі станоўчых вынікаў. Што ж атрымоўваецца? Калі гісторыкі, захавальнікі памяці грамадства, не могуць зберагчы памяць пра сябе, чаго ж чакаць тады ад іх у справе захавання памяці наогул?

**Міхась ШУМЕЙКА**

*Між іншым*

# Свет дзівосных вобразаў


*Скульптура «Паронкі». 1978 г.*

Выстаўка керамікі «Жывыя рысы з добрым гумарам», прымеркаваная да 95-годдзя з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, члена Саюза мастакоў СССР, народнага майстра-кераміста Мікалая Пушкара, ужо тыдзень працуе ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

Лёс гэтага неардынарнага чалавека — складаны. Нарадзіўся ў Белгародскай вобласці Расіі. Застаўся сіратой, быў беспрытульнікам. Затым трапіў у працоўную калонію Антона Макаранкі. Далей — вучоба ў Харкаўскім мастацкім вучылішчы, праца настаўнікам малявання ў школе, вайна, доўгі палон у нямецкім лагеры, вызваленне. І далей жыццё яго не песціла: 15 гадоў савецкіх лагераў, вызваленне, рэабілітацыя.

З гэтага моманту і пачынаецца новы этап у жыцці мастака: Мікалай Пушкар заяўляе пра сябе як выдатны кераміст. У 1966 годзе ён пераязджае на радзіму жонкі, у найпрыгажэйшы куток беларускага Палесся — горад Мазыр, з якім і звязана далейшая дзейнасць майстра. Пры ім быў адкрыты цэх керамікі на Мазырскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. А ў сваёй майстэрні кераміст стварыў музей народнай творчасці.

Нягледзячы на жыццёвыя выпрабаванні, работы Мікалая Пушкара запрашаюць нас у дзівосны свет народных вобразаў з жывымі рысамі і добрым гумарам. Тэракотавыя статуэткі адлюстроўваюць народны побыт і прыгажосць душы беларусаў, іх мудрасць, чуласць, працавітасць. Дзякуючы адметнаму почырку майстра каларытныя керамічныя фігуркі ператварыліся ў праўдзівыя творы мастацтва.

Сёння творчыя традыцыі, закладзеныя Мікалаем Мікітавічам, працягваюць жыць у прадукцыі Мазырскай фабрыкі. Іх любяць і ведаюць далёка за межамі нашай краіны.

У экспазіцыі «Жывыя рысы з добрым гумарам» можна ўбачыць рэдкія работы мастака з фондаў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, асабістыя рэчы майстра, якія прадаставіў Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей, а таксама вырабы з керамікі Мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

**Раіса МАРЧУК**

*Забытае імя*

# Вучаніца Юдэля Пэна

Гісторыя мае ўласцівасць сціраць са сваёй памяці многія імёны. Часам — і тыя, пра каго варта было б узгадаць.

Летась незаўважаным прайшло 110-годдзе з дня нараджэння Алены Аркадзьеўны Кабішчэр-Якерсон, якая нарадзілася ў Віцебску ў 1903-м. Першыя ўрокі прафесіі атрымала ў мастацкай студыі славутага Юдэля Пэна. У самыя складаныя 1918 — 1921 гг. вучылася ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Тады Віцебск перажываў мастацкі ўзлёт.

Алена Кабішчэр (Якерсон яна стане крышачку пазней) вучылася, працавала з цікавымі людзьмі. Набор першых студэнтаў у вучылішча адбыўся ў лістападзе 1918 г. А заняткі пачаліся ў студзені 1919-га. Згадаем першых выкладчыкаў: Эль Лісіцкі, Марк Шагал, Давід Якерсон, Юдэль Пэн, Ніна Коган, Аляксандр Ром…

З Давідам Якерсонам Алена пазнаёмілася яшчэ ў студыі Ю. Пэна. З ім і пераехала ў Маскву ў 1921 годзе. Вучылася ў ВХУТЕМАСе.

З 1927 года наша зямлячка пачынае ўдзельнічаць у мастацкіх выстаўках. У 1925 — 1929 гг. Алена Аркадзьеўна працуе ў Дзяржаўным Цэнтральным музеі прыродазнаўства. З 1929-га — у фальклорным кабінеце Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У 1930 — 1940 гг. стварала скульптурныя і жывапісныя работы для самых розных устаноў. У 1950 — 1958 працавала мастаком Маскоўскага аддзялення Мастацкага фонду СССР. Работы Кабішчэр-Якерсон захоўваюцца ў фондах шэрагу музеяў Расійскай Федэрацыі, у прыватных калекцыях. Пра Алену Аркадзьеўну ёсць старонкі ў кнізе Г. Казоўскага «Мастакі Віцебска. Іегуда Пэн і яго вучні» (Масква, 1992).

Муж Алены Аркадзьеўны — мастак і скульптар Давід Якерсон — памёр у 1947-м. Як і многія яго сучаснікі, вымушаны быў прыстасоўвацца пад час і эпоху. З вядомых у свой час работ Якерсона — помнікі Карлу Марксу ў Віцебску (1920), Якаву Свярдлову ў Стаўрапалі (1921), У. І. Леніну ў Таганрогу (1935).

Алена Кабішчэр-Якерсон пайшла з жыцця ў 1990 годзе.

**Мікола ПРЫТЫКА**

# У Міхайлаўскім скверы…

**Знакаміты польскі кінарэжысёр Кшыштаф Занусі, гледзячы на бронзавага каня, што «пасвіцца» каля Камароўскага рынку, заўважыў: «Калі ў вас ставяць такую скульптуру, то Мінск, несумненна, — горад еўрапейскі». Кампанія ўвекавечыла словы маэстра сумесным фота са скульптурай, а здымак быў перададзены яе аўтару.**



Уладзімір Жбанаў (1954 — 2012) — адзін з самых вядомых сучасных беларускіх скульптараў. Ён першым наблізіў да гледача гарадскую скульптуру, вызваліўшы яе ад высокіх пастаментаў і патэтычна-ідэалагічных пасланняў. Многія бачылі творы майстра: «Дзяўчынка з парасонам» і «Незнаёмка» — у Міхайлаўскім скверы Мінска, «Астролаг» на плошчы Зорак у Магілёве і шэраг іншых.

У сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася мемарыяльная выстаўка-пасланне У. Жбанава «Ад мяне», прымеркаваная да 60-годдзя з дня нараджэння майстра. Сам скульптар рыхтаваў экспазіцыю яшчэ пры жыцці. Ён хацеў выйсці да гледача, дэманструючы ўпэўненасць і сталасць, досвед і здабыткі. Але сёння, у адсутнасць аўтара, мэта выстаўкі змянілася: важна не толькі нагадаць пра папулярныя працы, але і пазнаёміць усіх з новым, яшчэ не вядомым нам скульптарам Жбанавым. З энергіяй і прыгажосцю яго твораў, якія засталіся нерэалізаванымі. З яго сістэмай мыслення, ідэямі, пошукамі і творчымі планамі.

Поплеч з Уладзімірам Жбанавым працаваў і ўдзельнічаў у эстэтычнай арганізацыі сталічнага асяроддзя заслужаны архітэктар Беларусі Барыс Юрцін: «У 1970-я гады «жывой» гарадской культуры не было. Разам з Валодзем мы рабілі архітэктурны праект, звязаны з добраўпарадкаваннем і азеляненнем горада, пасябравалі. Разам праектавалі Міхайлаўскі сквер. Гэта быў класны спецыяліст у спецыфічным жанры — арганізацыі гарадскога побыту. У многіх гарадах ёсць яго работы. Для Лошыцкага парку, добраўпарадкаванне якога працягваецца, Жбанавым была створана ўнікальная кампазіцыя «Царскае паляванне».

— Ён ніколі не быў сур'ёзным — эпатажны мастак! Адбылася змена эпох: знялі ідэалагічную дактрыну, калі было прынята ставіць помнікі толькі правадырам і пісьменнікам, — утварыўся вакуум. У Еўропе ўжо былі жанравыя скульптурныя кампазіцыі, у нас — не. Жбанаў з'явіўся ў патрэбны час у патрэбным месцы, — слушна адзначыў падчас адкрыцця выстаўкі заслужаны архітэктар Беларусі Юрый Градаў. — Заўсёды ў гумары, слова не пазычае. У яго і работы — недзе эпатажныя, недзе лірычныя, недзе хуліганскія. Але самыя моцныя і знакавыя — «Экіпаж» на плошчы Свабоды перад гарадской ратушай у Мінску і, безумоўна, скульптура, якая магла б упрыгожыць любы еўрапейскі горад, любую сталіцу свету, — «Астролаг» на плошчы Зорак у гістарычным цэнтры Магілёва. Дзіўная работа ў форме сонечнага гадзінніка, а замест лічбаў — тронная зала з крэсламі для кожнага знака задыяку. Я не магу зразумець таямніцу геніяльнасці мастака — усе яго скульптуры як жывыя.

Старшыня Саюза мастакоў Беларусі Рыгор Сітніца: «Мала каму з творцаў так шчасціць, каб адысці і пакінуць сваю выстаўку назаўсёды, каб застацца часткай горада, часткай свайго часу. Мы памятаем, наколькі феерычны гэта быў чалавек: вясёлы, крэатыўны і цікавы, іранічны — да сябе і сяброў. Адышоўшы — вось так, — застацца... Пазайздросціш!»

На выстаўцы прадстаўлены эскізы работ Уладзіміра Жбанава, выкананыя з бронзы, пластыліну, гіпсу і каменя. Сярод знакамітых скульптур — незнаёмыя. Так, бронзавага «Фатографа-грузіна» планавалі ўсталяваць у Сочы, «Паядынак» прадугледжваўся для «Чыжоўка-Арэны» — спецыяльна да Чэмпіянату свету па хакеі, але...

Падчас выстаўкі будуць арганізаваны пастаянныя творчыя сустрэчы з сябрамі і калегамі У. Жбанава, дэманстрацыя прысвечаных яму фільмаў, скульптурныя сімпозіумы і майстар-класы. Праект завершыць круглы стол, прысвечаны творчасці скульптара і яго ролі ў беларускім мастацтве.

Скульптура напаўняе горад жывымі эмоцыямі, робіць яго блізкім кожнаму. Сёння прыходзіць усведамленне таго, што Уладзімір Жбанаў быў майстрам, які ствараў скульптуры еўрапейскага значэння.

**Таццяна ШЫМУК**



*«У чаканні», 2010 г.*



*«Паядынак», 2010 г.*

*З нагоды*

# Феерверк эмоцый

З творчасцю заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Валянціны Карэлікавай я знаёма даўно. Гэта чалавек нялёгкага лёсу. Валянціна Васільеўна вырасла ў дзіцячым доме. Але, дзякуючы сваёй прыроджанай музыкальнасці здолела рэалізаваць сябе напоўніцу. А яшчэ ёй пашанцавала на добрых настаўнікаў, якія заўважылі таленавітую дзяўчынку і падтрымалі. Валянціна скончыла дзіцячую музычную школу, музычнае вучылішча імя Несцера Сакалоўскага, Беларускую кансерваторыю.

Працуючы ў «Харошках», «Бяседзе», яскрава праявіла сябе як музыкант-віртуоз. Іграе на 9 музычных інструментах, збірае вялікія залы Белдзяржфілармоніі, Дома афіцэраў і іншых падчас творчых канцэртаў. Выдатна выконвае народныя песні і на вершы беларускіх паэтаў. Творчы вечар у Доме афіцэраў назвала «Жанчына я!..» Гэта радок з песні на верш паэта Уладзіміра Скарынкіна (музыка Вячаслава Шарапава).

Дарэчы, на ўсе канцэрты Валянціны гледачы і слухачы ходзяць выключна па запрашальных білетах, што сведчыць пра шырокую, бескарыслівую натуру і добрую душу выдатнай артысткі і цудоўнай жанчыны — феерверку эмоцый і таленту, якая 18 сакавіка адзначыла юбілей.

**Валянціна ЛУЦЭВІЧ**

# Па-французску, з субцітрамі

**Пры падтрымцы пасольстваў Францыі, Румыніі і Балгарыі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама аддзялення пасольства Швейцарыі ў Мінску з 24 па 28 сакавіка ў кінатэатры «Цэнтральны» пройдзе Тыдзень франкафоннага кіно.**

24 сакавіка гледачам прадставяць драму «Праследаванне» (2009): 35-гадовы Даніэль жыве спакойным і мерным жыццём, вастрыню якому надаюць супярэчлівыя адносіны з каханкай Соняй. Але аднойчы яго спакой раптоўна парушаецца. Незнаёмец праследуе Даніэля паўсюль: на працы, на вуліцы, у кватэры. Выпадковасць ці штосьці іншае?..

25 сакавіка драма «Рына» (2005) распавядзе пра цікавае жыццё шаснаццацігадовай дзяўчыны-фатографа з маленькага пасёлішча ў дэльце Дуная. А стужка «Анжэль і Тоні» (2010) пакажа рамантычную гісторыю кахання адзінокіх людзей у невялікай пустэльнай вёсачцы ў Нармандыі.

Адразу тры кінастужкі змогуць ацаніць беларускія кінаманы 26 сакавіка: «Зімовыя вандроўнікі» (2012) — дакументальны фільм пра «падарожжа» людзей і жывёл, якое праходзіць на ўлонні гор і сельскага пейзажу, паказвае, наколькі радыкальна змянілася прырода і зямля ў цэлым. Камедыя «Вяселле ў Бесарабіі» (2009) дасць магчымасць гледачам на прыкладзе дзвюх сем'яў убачыць, як моцна жыхары розных краін адрозніваюцца ў мысленні, культуры і палітычных поглядах. А мультфільм «Давай, расказвай!» (2010), зняты па матывах аднайменнага комікса, сваімі казачнымі прыгодамі стане цікавым як для маленькіх, так і для дарослых гледачоў.

27 сакавіка драма «Сястра» (2012) пакажа жыццё і нялёгкія адносіны асірацелых 12-гадовага Сымона і яго старэйшай сястры Луізы, дзе апошняя разрываецца паміж любоўю да незалежнасці і неабходнасцю абараніць брата...

Завершыцца Тыдзень франкафоннага кіно 28 сакавіка камедыяй «Разам — гэта занадта» (2009), дзе яскрава паказаны стасункі маладога і старога пакаленняў. Фільмы дэманструюцца на французскай і румынскай мовах з рускімі субцітрамі.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2547.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 20.03.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1030.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686